13 верасня 2019 | № 34 (645) Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Усе баяцца Грэты
Стар. 8



# Улада хоча забыць

## Грамадства мусіць памятаць



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Віктару Ганчару 7 верасня споўнілася б 62 гады. Ён і яго сябра Анатоль Красоўскі зніклі 20 гадоў таму, 16 верасня 1999 года, у самым росквіце, поўныя ідэй і моцы, каб змяняць краіну і паварочваць яе ў бок дэмакратыі.**




Фота www.tut.by

Нагадаем, увечары 16 верасня 1999 года Віктар Ганчар разам са сваім сябрам прадпрымальнікам Анатолем Красоўскім прыехаў у лазню на вуліцы Фабрычнай, 20 у Мінску. Апошні раз іх бачылі прыкладна ў 22.35, калі абодва выйшлі з будынку і селі ў «Джып-Чэрокі», які належаў Красоўскаму.

Крымінальную справу па факце знікнення Ганчара і Красоўскага распачала пракуратура Мінска. Паводле дадзеных следства, пры аглядзе прылеглай тэрыторыі былі знойдзены асколкі пластмасавых рассейвальнікаў светласігнальных прыбораў аўтамабіля, сляды тармажэння аўтамашыны і яе ўдару аб дрэва, а таксама сляды крыві. Аналіз сабраных па справе доказаў, у тым ліку паказанняў сведак, дае падставу меркаваць, што Ганчар і Красоўскі былі гвалтоўна выкрадзеныя.

Прадстаўнікі апазіцыі, родныя зніклых і міжнародная грамадскасць лічаць, што Ганчар і Красоўскі былі выкрадзеныя па палітычных матывах, і падазраюць у датычнасці да гэтага злачынства вышэйшых службовых асобаў краіны.

На адной з вечарынаў памяці зніклых палітыкаў узгадвалі, што Віктара Ганчара немагчыма было купіць. Ні пасады, ад якіх ён лёгка адмаўляўся, ні прапанаваныя кейсы з грашыма не прымусілі яго здрадзіць самому сабе. Ён умеў трымаць уладу ў напружанні, не гуляў па яе сцэнары, а ствараў свой, альтэрнатыўны. Відаць, таму найлепшым спосабам пазбавіцца ад небяспечнага апанента арганізатары яго знікнення палічылі фізічную ліквідацыю.

Мяркуюць, што захоп і выкраданне Віктара Ганчара праходзілі па схеме, падобнай да выкрадання яшчэ аднаго зніклага апазіцыйнага палітыка Юрыя Захаранкі. Паводле грамадскага расследавання, у справе зноў фігураваў аўтамабіль аднаго з сілавікоў, а ўдзел гэтай асобы ў справе пазней пацвердзіўся і звесткамі пра тое, што для знішчэння Віктара Ганчара быў выкарыстаны расстрэльны пісталет — табельная зброя, якой у Беларусі ў той час выконвалі смяротныя прысуды. У чэрвені 2001 года сусветная грамадскасць атрымала ў распараджэнне паказанні следчых КДБ Петрушкевіча і Случака, якія распавялі падрабязнасці кантраляванай Лукашэнкам сістэмы ліквідацыі «небяспечных» асоб, так званых «эскадронаў смерці».

Суд прызнаў Віктара Ганчара без вестак адсутным, а вось інфармацыі пра тое, што ў крымінальнай справе аб знікненні апазіцыянера пастаўлена кропка, беларускае грамадства дагэтуль не мае. Тым не менш, у студзені 2019 года паведамленні аб прыпыненні папярэдняга расследавання атрымалі сваякі зніклых палітыкаў, у тым ліку жонка Віктара Ганчара Зінаіда Ганчар.

«Такім чынам дзяржава перастае шукаць зніклых больш за 19 гадоў таму апанентаў улады, усталёўваць вінаватых у гэтых знікненнях і выключае ўсе магчымасці іх пакарання», — пракаментавала рашэнне Следчага Камітэта Беларусі Раіса Міхайлоўская, кіраўніца Беларускага дакументацыйнага цэнтра.

У сваю чаргу, праваабаронца і даверная асоба сям'і Юрыя Захаранкі Алег Волчак зазначыў, што фактычна следчыя органы спынілі афіцыйнае расследаванне справы, і яе здадуць у архіў.

«Упэўнены, што ніхто ўжо не будзе аднаўляць папярэдняе следства, паколькі і так расследавалі каля 20 гадоў. Як у сітуацыі са знікненнем журналіста Дзмітрыя Завадскага, калі яго справа была прыпыненая досыць даўно, але ні разу не аднаўлялася», — рэзюмаваў праваабаронца.

На яго думку, вінаватыя ў знікненні палітыкаў не будуць пакараныя.

Гэта пацвярджае і адказ з Канстытуцыйнага суда, які прыйшоў кіраўніцы БДЦ Раісе Міхайлоўскай на зварот, у якім яна прасіла прадугледзець у Крымінальным кодэксе гвалтоўнае знікненне як асобны від злачынства. Намеснік старшыні Канстытуцыйнага суда Карповіч паведаміў, што зварот вывучаны ў Канстытуцыйным судзе, аднак падставаў для ўзбуджэння вядзення па справе не выяўлена.

Сёння беларускія ўлады робяць усё, каб грамадства забылася на гвалтоўныя знікненні палітыкаў, светапогляд якіх не супадаў са светапоглядам кіраўніцтва краіны. Іх імёнаў не сустрэнеш у дзяржаўнай прэсе і іншых крыніцах. Вырасла цэлае пакаленне, для якога імёны Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Юрыя Захаранкі, Дзмітрыя Завадскага нічога не кажуць. Здаецца, родныя зніклых палітыкаў змірыліся і перасталі змагацца за аднаўленне справядлівасці.

Але беларускае грамадства не мае права забыцца і перастаць патрабаваць праўды. Інакш гэта стане рэабілітацыяй палітычнага бандытызму і маўклівай згодай на яго паўтарэнне.



# Памяці нашага Караля

Аксана КОЛБ

**Чатыры гады Аляксей глядзіць на нас з Нябёсаў. Глядзіць і, спадзяюся, радуецца ды ганарыцца.**

Чатыры гады таму, 12 верасня 2015-га, ён адышоў у лепшы свет — той, дзе няма болю, роспачы і нянавісці. А мы засталіся і паспрабавалі працягнуць справу яго жыцця — як бы тое ні было, рабіць нашу газету, наш «Новы Час».

За чатыры гады ў нашай каманды былі незваротныя страты — назаўсёды сыходзілі тыя, з кім «Новы Час» пачынаў сваё развіццё. Але былі і, спадзяюся, будуць найкаштоўныя здабыткі — новыя імёны, таленавітыя маладыя журналісты. Гэта з імі мы працягнем наша развіццё, каб кожны раз наш і ваш «Новы Час» прыносіў асалоду чытання і мыслення.

А Аляксей... Мы дасюль адчуваем яго прысутнасць. Мне здаецца, ён глядзіць на нас адтуль... і пасміхаецца так, як умеў толькі ён. Усё, пра што мы калісьці з ім разам марылі, паступова здзяйсняецца. «Новы Час» можна набыць у шапіках і падпісацца на яго на пошце. Трывала расце наведвальнасць нашага сайта. Газета выходзіць, і мы ўсімі сіламі імкнёмся наблізіць яшчэ адну нашу мару, самую запаветную, — убачыць нарэшце Беларусь дэмакратычнай і свабоднай.

Магчыма, не ўсё ў нас атрымліваецца, магчыма, часам мы памыляемся. Але, як кажуць, не памыляюцца толькі тыя, хто нічога не робіць. Мы імкнёмся рабіць нашу справу добра і сумленна. Дзякуй за гэта нашаму Каралю, бо навучыў працаваць так, каб не было сорамна. Дзякуй за гэта нашым чытачам, бо гэта іх аўтарытэтнае меркаванне дае сілы ўдасканальвацца і ісці далей, нягледзячы ні на што.

Аляксей вельмі любіў нас — усіх тых, хто рабіў «Новы Час», і тых, хто чакаў кожнага нумару і сачыў за ўсімі навінамі. І вельмі ўсімі намі ганарыўся. Спадзяюся, ганарыцца дасюль.

Мы цябе памятаем! Мы адчуваем тваю падтрымку! Хоць і яшчэ адзін год мы пражылі без цябе.

# А вы ўпэўненыя?

Сяргей ПУЛЬША

**Прэм'еры Беларусі і Расіі Сяргей Румас і Дзмітрый Мядзведзеў парафіравалі праграму інтэграцыі дзвюх краін. Па словах Румаса — нічога страшнага. Маўляў, «праграма накіраваная на рэалізацыю выключна эканамічных палажэнняў і прадугледжвае механізмы, пры якіх на дзве краіны будзе функцыянаваць адзіны рынак».**

«Мы з Дзмітрыем Мядзведзевым падвялі рысу пад першым этапам вялікай працы, паставілі свае візы пад праграмай дзеянняў, зацвердзілі пералік дарожных картаў. 31 дарожная карта ўвайшла ў гэты пералік, і нам на працягу бліжэйшых двух месяцаў трэба будзе вельмі вялікая праца, каб да пачатку снежня падрыхтаваць для падпісання нашымі кіраўнікамі пакет з праграмы дзеянняў, дарожных картаў і некалькіх міжурадавых дамоваў», — распавёў Сяргей Румас.

Што там парафіравалі прэм'еры, мы яшчэ не бачылі. Румас абяцаў апублікаваць гэтую праграму пасля таго, як яе зацвердзяць.

Такім чынам, улада зноў наступае на тыя ж граблі. І гэтыя граблі б'юць па лбе ўсё мацней і мацней.

З аднаго боку, Румас і Мядзведзеў, ды іншыя «сатаварышы» даюць багата грунту для занепакоенасці і розных канспіралагічных версій. Бо, калі праграма накіравана на рэалізацыю «чыста эканамічных пагадненняў», дык чаму б яе не апрылюдніць зараз і не паслухаць, што народ скажа з гэтай нагоды? Ці сапраўды там толькі «эканамічны» складнік? Ці не існуе там нейкіх «сакрэтных пратаколаў», як у пакце Молатава — Рыбенторпа? Што хаваюць высокія дамоўныя бакі ад простага люду?

І чаму такім дзіўным чынам (дарэчы, як амаль заўсёды) плануецца яе апублікаванне — толькі тады, калі «праграма будзе зацверджаная», і зменіць гэтае зацвярджэнне будзе ўжо складана? Чаму нас плануюць проста паставіць перад фактам таго, што напісалі і выпрацавалі Румас і Мядзведзеў? Можа быць, маюць рацыю тыя, хто кажа пра пагрозу незалежнасці Беларусі ў выніку гэтай «глыбокай інтэграцыі», — калі ўсё робіцца так патаемна?

З другога боку, народ, які па Канстытуцыі з'яўляецца крыніцай улады ў Беларусі, можа не ўспрыняць такую «патаемную інтэграцыю». А што ў гэтым выпадку адбываецца — мы бачым цяпер на шматлікіх прыкладах. Узгадаем сумнавядомую будоўлю акумулятарнага завода ў Брэсце — там таксама «зацвердзілі» і пабудавалі, не вельмі пацікавіўшыся меркаваннем грамадзян. А ў выніку атрымалі галаўны боль ад масавых пратэстаў, «гемарой для ўладаў» (па выразе мясцовага кіраўніцтва) і даволі гучныя карупцыйныя справы.

Аналагічная сітуацыя ў Светлагорску з пабудаваным кітайцамі камбінатам. Таксама нічога нікому не паведамілі, «узгаднілі і зацвердзілі», а атрымалі бунт у рэгіёне.

Калі б у вышэй прыведзеных прыкладах, перш чым пачынаць марнаваць грошы на «інвестпраекты», улады пацікавіліся б меркаваннем жыхароў, правялі тлумачальную працу і хаця б пагутарылі з мясцовымі — можа, і не было б гэтых пратэстаў і абвастрэння сітуацыі. Але яны, улады, вырашылі, што таксама можна «апублікаваць пасля зацвярджэння», не ўлічваючы негатыўнае меркаванне людзей.

У выпадку з «інтэграцыйнымі» дакументамі — усё больш складана. Тут ужо патыхае не рэгіянальным пратэстам, а (не выключана) агульнанацыянальным. Раптам народу, які шмат ведае пра Брэст і Светлагорск, і таксама не забыўся на 2017-ты, калі праз масавыя пратэсты быў істотна зменены «дармаедскі дэкрэт», не спадабаюцца «інтэграцыйныя ідэі» Румаса? Раптам у гэтых «чыста эканамічных дарожных картах» нехта ўгледзіць, напрыклад, пагрозу для захопу «флагманаў беларускай прамысловасці» расійскім алігархатам?

Альбо ўяўляеце, якую паніку ў фінансавым сектары могуць утварыць «зацверджаныя» нават не рашэнні, а проста планы пераходу на «адзіную валюту саюзнай дзяржавы»? Асабліва, калі па змоўчванні гэтай «валютай» прызнаецца расійскі рубель, што каштуе тры беларускія капейкі? Народ, заробкі якога, паводле падлікаў эканамістаў ІПМ, растуць звыш прадукцыйнасці працы, зноў кінецца скупаць долары. А нашыя золатавалютныя рэзервы, хаця і дасягнулі рэкорднага за пяцігодку ўзроўню, усё ж не гумовыя. І мы атрымаем новы валютны крызіс.

Тады «патаемныя пратаколы Румаса» могуць прывесці ўжо не да лакальных пратэстаў, а да непрадказальных наступстваў — ад ажыятажу ў пунктах абмену валюты і да ўсеагульнага страйку.

Да таго ж цяпер у Беларусі — не самы зручны час для падпісання і зацвярджэння нейкіх міжурадавых дамоваў і пагадненняў. Шостая Палата прадстаўнікоў дажывае апошнія дні, палата новага склікання толькі набірае сваіх «кандыдатаў у кандыдаты». На носе — прэзідэнцкая кампанія. Ці можна быць на 100 працэнтаў упэўненым, што «дарожныя карты інтэграцыі» будуць зацверджаныя?

А вось абмеркаваць з народам тыя «праекты паглыбленай інтэграцыі», каб не дапусціць нейкіх праколаў і наступстваў, — самы час. Каб не давялося потым разганяць пратэстоўцаў вадамётамі і слезацечкай.

# Як выжыць на 266 рублёў?

Зінаіда ЦІМОШАК

**Жыхарцы Слуцка Валянціне Курлыковай 64 гады. На пенсію яна выйшла ў 58 гадоў у Кыргызстане. А ў Беларусі жыве на працягу 5 гадоў — пераехала з Бішкеку ў 2014-м. Яе бацька нарадзіўся ў Беларусі.**

— Беларускія родзічы пазвалі вярнуцца на радзіму бацькі, бо тут нібыта добра жывецца. Абяцалі залатыя горы, — распавядае жанчына. — На самай справе, тут мне прыходзіцца не жыць, а выжываць.

Працоўны стаж жанчыны складае каля 40 гадоў. Аднак у Беларусі з іх улічылі толькі 20 гадоў — працу ў Савецкім Саюзе да 1992-га. Такім чынам, цяпер пенсія па ўзросце ў Валянціны Курлыковай — 266 рублёў з усімі дабаўкамі.

Валянціна Міхайлаўна плаціць за камунальныя паслугі і за сувязь больш за 50 рублёў. Пры атрыманні пенсіі адразу ж адкладае ўбок 30–40 рублёў на лекі.

— Калі наведваю паліклініку, папярэджваю дактароў, каб не выпісвалі дарагія замежныя лекі. Ужываю толькі беларускія, — гаворыць жанчына. — Намагаюся верыць, што лекі — ёсць лекі, яны павінны лячыць.

Асноўныя прадукты харчавання — крупы. У штодзённы рацыён абавязкова ўваходзіць каша з алеем. Валянціна Міхайлаўна падлічыла, што ўжываць алей сланечніку танней, чым сметанковае масла: каштуе 2 рублі за бутэльку, і яго хапае на цэлы месяц. Пенсіянерка добра ведае, якія прадукты і ў якой краме можна купіць танней. Ад крамы да крамы ходзіць пешшу, гарадскім транспартам не карыстаецца, нягледзячы на тое, што жыве на ўскрайку Слуцка.

— Свіное мяса, ялавічыну, курэй ды іх грудкі не купляю, бо яны для мяне занадта дарагія, — гаворыць жанчына. — Бяру супавы набор з курыных абрэзаных хрыбтоў па 1 рублі і 20 капеек, вантробы. Курыныя хрыбты абразаюць так, што там застаецца і мяса. Купляю слуцкі тварог: ён таннейшы і даволі смачны. Добра ад голаду ратуе хлеб, лічу, што ў Беларусі ён нядрэнны. 2 боханы хлеба хапае амаль на месяц.

Нягледзячы на жорсткія ўмовы выжывання, Валянціна Міхайлаўна з гумарам ацэньвае сваё пенсіянерскае жыццё: «У цэлым маё жыццё можна абазначыць трыма літарамі "Д": даношваю, даядаю, дажываю».

Цікава, што былы грамадзянскі муж Валянціны Міхайлаўныпераехаў у Італію з Кыргызстана ў тым жа 2014 годзе. У адрозненне ад Валянціны Міхайлаўны, якая адразу ж займела беларускае грамадзянства, у Анатоля — толькі від на жыхарства ў Італіі. У параўнанні з італьянцамі, якія маюць ад 700 да 1000 еўра пенсіі, ён атрымлівае толькі 300 еўра. Але лекуецца бясплатна, бясплатна ездзіць у гарадскім транспарце. Пры гэтым лекар выпісвае яму лекі не танныя, а такія, якія неабходны для яго стану здароўя. Муж Валянціны Міхайлаўны, дарэчы, дорага абыходзіцца для Італіі, паколькі ў яго хворыя ныркі, і яму рэгулярна робяць бясплатны гемадыяліз. Анатоль чакае нырку для бясплатнай перасадкі. Раз на месяц атрымлівае скрынку самых неабходных прадуктаў. На вялікія святы яму выдаюць двайную пенсію. Калі-нікалі ён нават умудраецца фінансава падтрымаць сваю былую жонку.

— Па натуры я актыўны і творчы чалавек, але хаджу толькі на бясплатныя канцэрты і езджу толькі на бясплатныя экскурсіі, — працягвае распавед случчанка. — Наведваю бясплатны курс пры мясцовым ТБМ «Размаўляем па-беларуску». Мяне цікавіць беларуская мова, запісваю словы ў слоўнік. На першых уроках нічога не разумела, цяпер пакуль яшчэ размаўляць не магу, але ўжо пачынаю разумець, і нават гляджу беларускія фільмы. Мару наведаць тэатр імя Янкі Купалы і Тэатр беларускай драматургіі.

Валянціна Міхайлаўна звярталася па дапамогу ў райвыканкам — некаторы час на працягу паўгода выдавалі дапамогу ў памеры 40 рублёў. Але такую дапамогу можна атрымліваць 1 раз на 5 гадоў. У аддзеле сацыяльнай абароны выдалі адзін раз дапамогу памерам у 40 рублёў і праінфармавалі, што такіх, як яна, — многа, і ёсць яшчэ больш бедныя. «Было сорамна, і больш я ўжо туды не пайшла», — распавяла Валянціна Міхайлаўна, і дадала: «Маю сына, які жыве асобна са сваёй сям'ёй. Зарабляе крыху больш за 500 рублёў, жонка — крышку больш за 300. Здаецца, і неблагія грошы, але ім чамусьці не хапае».

На пытанне карэспандэнта НЧ пра яе ўяўленне пра дастойную пенсію для годнага жыцця, Валянціна Міхайлаўна адказала так: «Мае запатрабаванні зусім сціплыя. Добра б было, каб плацілі 500–600 рублёў. Тады можна было б крыху эканоміць і не трымаць сябе ў занадта жорсткіх рукавіцах».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Якімі будуць лічбы?

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Так супала, што амаль адначасова ў нас пройдуць дзве маштабныя кампаніі па высвятленні меркавання насельніцтва. Але ў той жа час адна кампанія можа значна спляжыць давер да другой.**

З першай кампаніяй усё вядома, і яе подыхі мы ўжо бачым на вуліцах. Гэта — так званыя выбары ў Палату прадстаўнікоў. Пакуль гэта кампанія толькі распачалася, і рухаецца яна даволі павольна. Напрыклад, па стане на 9 верасня акруговыя выбарчыя камісіі зарэгістравалі 211 ініцыятыўных групаў па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты.

Усяго было пададзена 298 заяваў на рэгістрацыю, адна была адкліканая, у двух выпадках у рэгістрацыі адмоўлена, паведамляецца на сайце ЦВК. 170 ініцыятыўных групаў вылучаюць беспартыйных кандыдатаў. 11 вылучэнцаў прадстаўляюць Кампартыю, сем — БНФ, па пяць — Рэспубліканскую партыю працы і справядлівасці і БСДП (Грамада), «Справядлівы свет», чатыры — АГП, два — Беларускую патрыятычную партыю, па адным — Беларускую сацыяльна-спартыўную партыю і ЛДП.

Рэгістрацыя ініцыятыўных групаў скончылася 12 верасня. Але, як бачым, на 110 дэпутацкіх месцаў конкурс пакуль не вельмі вялікі — менш за тры чалавекі на мандат. Што, у прынцыпе, карэлюецца з конкурсамі ў айчынныя ВНУ на бюджэт.

Канешне, кандыдатам у дэпутаты можна стаць і «па-за конкурсам» — балатавацца ад нейкай палітычнай партыі. Але такія кандыдаты, як правіла, губляюць магчымасць стасавацца з выбаршчыкамі на этапе збору подпісаў.

На днях ЦВК апублікаваў яшчэ больш цікавую лічбу — вынікі па фармаванні акруговых выбарчых камісій на парламенцкіх выбарах. У гэтыя камісіі прайшоў толькі 31 чалавек з апазіцыйных партый на 1430 іх чальцоў. То-бок, колькасць апазіцыі ў камісіях — 2,5%.

Зразумела, што амаль ніхто ў справядлівыя выбары дэпутатаў у нас не верыць. Усе кажуць пра «прызначэнне», а таму ў гэтых выбарах няма ніякай інтрыгі. І не важна, як і за каго людзі прагаласуюць, — у «палатку» патрапіць той, хто, паводле меркавання вышэйшага кіраўніцтва, павінен туды патрапіць.

Але ёсць і другая кампанія — гэта перапіс насельніцтва Беларусі, які пачнецца праз некалькі тыдняў: з 4 па 30 кастрычніка. Па словах прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Румаса, лічбы, атрыманыя ў час перапісу, стануць базісам для прыняцця рашэнняў у эканамічнай і сацыяльнай сферах.

Румас пры гэтым падкрэсліў, што планаванне эканомікі Беларусі на бліжэйшыя 10 гадоў залежыць ад дакладнасці вынікаў перапісу, таму важна якасна правесці мерапрыемства.

І вось тут, ведаючы, наколькі «сумленна» ў нас лічацца галасы на выбарах ці наколькі «аб'ектыўная» ў нас статыстыка ў дачыненні да таго ж беспрацоўя, узнікаюць вялікія пытанні да дакладнасці і якасці вынікаў, ад якіх бліжэйшыя 10 гадоў будзе залежыць «планаванне эканомікі Беларусі».

Бо планаванне эканомікі — гэта не пасяджэнні «прызначаных» дэпутатаў для аднагалоснага ўхвалення законапраектаў, нават самых неадназначных (узгадаем «дармаедскі дэкрэт» альбо «закон Раўкова» пра службу ў войску). Эканоміка — больш сур'ёзна.

Што пакажа перапіс? «Сярэдняя заробкі набліжаюцца да 1000 рублёў», альбо вакансіі па 400–500 рублёў на месяц (у лепшым выпадку)? «Краіну для жыцця» альбо мільён працоўных, што з'ехалі на заробкі ў Расію, Польшчу, Украіну ды Літву?

Ці пабачым мы сапраўдныя вынікі гэтага перапісу — асабліва на фоне парламенцкай кампаніі, і ў сувязі з маючымі адбыцца ў 2020 годзе прэзідэнцкімі выбарамі? Ці вынікі гэтага перапісу падвядуць прыблізна так, як падводзяць вынікі тых самых «выбараў»?

Варта адзначыць, ужо цяпер сітуацыя «па перапісе» выглядае не вельмі аптымістычнай, таму што днямі свет пабачыў дэмаграфічны штогоднік Рэспублікі Беларусь за 2018 год. Згодна яму, у мінулым годзе ўпершыню за апошнія некалькі гадоў паказчык па колькасці народжаных дзяцей апусціўся ніжэй за 100 тысяч чалавек.

Апошні раз гэты паказчык апускаўся ніжэй за сто тысяч у 2006 годзе. У 2015-м у краіне нарадзіліся 119 тысяч дзяцей (12,5 на сто тысяч насельніцтва). Вялікі спад адбыўся ў 2017-м — 102,6 тысячы народжаных пасля 117,8 тысячы ў 2016 годзе. У 2018-м нарадзіліся 94 тысячы (9,9 на сто тысяч насельніцтва).

Пры гэтым колькасць тых, хто памёр, у апошнія гады моцна не мянялася. У 2015-м — 120 тысяч (12,6 на сто тысяч насельніцтва), у 2018-м — 120 тысяч (12,7 на сто тысяч). Натуральнае змяншэнне ў 2018-м — мінус 26 тысяч.

То-бок, смяротнасць у нас стала перавышае нараджальнасць. Ці будзе «падтрымка маладых сем'яў», заклікі нараджаць больш, розныя «дэмаграфічныя праграмы» і тое, што «трэцяе дзіця — кіраўніка дзяржавы», адлюстравана ў перапісе насельніцтва?

Ёсць вялікая небяспека ў тым, што перапіс насельніцтва «падкарэктуюць» такім жа чынам, як і вынікі выбараў. Нам злепяць прыгожы «малюнак», які будзе слаба адпавядаць рэальнаму стану рэчаў. І больш за тое — зыходзячы з гэтага малюнку будуць вызначаць эканамічныя і сацыяльныя рашэнні для жыцця ўсёй краіны.

Бо мы звыкліся з тым, што чыноўнікі жывуць у нейкай іншай рэальнасці, чым грамадзяне Беларусі. У іх свая краіна — тая, што паказваюць па тэлевізары ў навінах беларускага тэлебачання. І, на жаль, яна вельмі адрозніваецца ад Беларусі сапраўднай.

А можа быць, перапіс насельніцтва папросту ні на што не паўплывае. Ужо зараз, не чакаючы гэтай маштабнай падзеі, нам расказалі, як мы будзем жыць далей. Напрыклад, намеснік Румаса Уладзімір Кухараў паведаміў, што тарыфы на паслугі ЖКГ у 2020 годзе будуць павышацца ў два этапы. «Калі раней з 1 студзеня ўздымалі на пяць долараў тарыфы, то з гэтага года падзялілі павышэнне на два этапы. З 1 студзеня ўзнялі на 3,9 долара, а з 1 чэрвеня на ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне — 1,1 долара. Бачым, што такую тэндэнцыю трэба працягваць», — паведаміў чыноўнік.

Так што перапіс — перапісам, а калі кіраўнік дзяржавы сказаў пра «пяць долараў», то гэтая пяцёрка ў планах і застанецца. І не важна, што ў нас там з сацыяльна-эканамічнымі паказчыкамі па выніках маштабнага апытання ўсіх жыхароў краіны.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Марына Золатава

**Беларусь з'яўляецца адной з дзесяці краінаў з самай жорсткай цэнзурай прэсы ў свеце. Да такой высновы прыйшлі эксперты Камітэта па абароне журналістаў.**

Эксперты даследавалі метады цэнзуры, якія ўжываюць аўтарытарныя ўрады розных краін. У спіс трапілі краіны, дзе ўціск свабоды прэсы і асноўныя рызыкі для журналістаў зыходзяць менавіта ад дзяржавы. Такія фактары, як ваенныя канфлікты і роля прыватных суб'ектаў, не ўлічваліся. Беларусь у выніку апынулася на 9-м месцы з 10.

Здавалася б, пры чым тут Золатава? Аднак суд над галоўным рэдактарам TUT.BY быў прыведзены ў якасці «самага горшага прыкладу парушэння свабоды СМІ і цэнзуры». Нагадаем, Золатава была прызнаная вінаватай у тым, што як службовая асоба не перашкодзіла несанкцыянаванаму доступу сваіх падначаленых да кампутарнай інфармацыі БелТА, яе аштрафавалі на 7650 рублёў і абавязалі аплаціць судовыя выдаткі БелТА на суму ў 6000 рублёў.

Увогуле, сітуацыю ў Беларусі дакладчыкі апісваюць так: дзяржава амаль цалкам кантралюе СМІ, аказвае ціск на ўплывовыя медыя і прыватных асобаў, у тым ліку публічна, калі арыштоўвае журналістаў і заводзіць на іх крымінальныя справы, дазваляе ператрусы ў рэдакцыях, некаторыя незалежныя журналісты і блогеры пераследуюцца, іх затрымліваюць. Згадваюцца крымінальныя справы супраць журналіста Дзмітрыя Галко і брэсцкага блогера Сяргея Пятрухіна, вясновыя ператрусы ў мінскім офісе тэлеканала «Белсат», блакаванне незалежных сайтаў, напрыклад «Хартыі 97», рэдактарка якой Наталля Радзіна знаходзіцца ў выгнанні.



## Дзмітрый Паліенка

**Палітвязень выйшаў са штрафнога ізалятара СІЗА-1, дзе трымаў 7-дзённую галадоўку. Пра гэта напісаў у фэйсбуку актывіст Вячаслаў Касінераў. Паведамляецца, што самаадчуванне Дзмітрыя за гэты час прыкметна пагоршылася.**

Пра магчымае змяшчэнне ў карцар Паліенкі напісала яго нявеста Наста Гусева. Яна прынесла Паліенку перадачу, якую не прынялі, не растлумачыўшы сітуацыю. Адмова прыняць перадачу сведчыла пра тое, што Паліенка знаходзіцца ў карцары. У такім выпадку перадачу зняволенаму не выдаюць.

Таксама ёсць інфармацыя, што ў Паліенкі абвастрылася астма і зноў праявіў сябе дэрматыт. Яго паплечнікі лічаць, што жыццё і здароўе вязня знаходзяцца пад пагрозай. «Дзмітрый напісаў скаргу на дзеянні адміністрацыі, якая аказвае на яго ціск рознымі спосабамі. Частка перапіскі не даходзіла ні Дзмітрыю, ні тым, хто падтрымлівае вязня рэжыму ў засценках. У тым ліку, Паліенка спрабаваў паведаміць аб магчымасці заключэння ў ізалятар, аднак толькі пасля яго вызвалення сябры і таварышы даведаліся, што Дзмітрый тыдзень правёў у карцары, абвясціўшы галадоўку, каб абараніць свае правы», — напісаў Касінераў.



## Арына Сабаленка

**Беларуская тэнісістка выйграла першы турнір «Вялікага шлему» — у парным разрадзе. Разам з бельгійкай Эліс Мертэнс яны ў фінале выйгралі ў пары Вікторыя Азаранка — Эшлі Барці (7:5, 7:5).**

Лік у матчах паміж Арынай Сабаленка і Вікторыяй Азаранка пасля трох паядынкаў — аднаго адзіночнага і двух парных — 3:0 на карысць Сабаленка.

Гэта быў першы выпадак, калі беларускі аспрэчвалі тытул на турнірах «Вялікага шлема» ў барацьбе адна з адной. На рахунку Сабаленка і Мертэнс зараз тры парных тытулы. Два першыя яны выйгралі ў сакавіку 2019 года, калі аформілі так званы «Сонечны дубль» дзякуючы перамогам у Індыян-Уэлсе і Маямі.

Характэрна, што на шляху да фіналу ў Маямі Сабаленка і Мертэнс атрымалі перамогу якраз над Азаранка і Барці — 7:6, 7:5. Гэта быў першы матч, у якім супернічалі Арына і Віка.

Нагадаем, што для Азаранка і Сабаленка цяперашні адкрыты чэмпіянат ЗША стартаваў з вочнай сустрэчы ў адзіночным разрадзе. Сабаленка аказалася мацнейшай, аднак ужо ў наступным раўндзе прайграла Юліі Пуцінцавай з Казахстана. Для Азаранка вылет у першым крузе US Open стаў першым у кар'еры.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# На электрычнай машыне Tesla па праспекце праўды

**Кожнаму ў Беларусі гарантуецца свабода думак і перакананняў, у тым ліку і адзінаму палітыку (АП). Тым, хто ў гэтым сумняваецца, рэкамендую перачытаць артыкул 33 Канстытуцыі. Гэты ж артыкул абараняе сродкі масавай інфармацыі ад манапалізацыі дзяржавай і не дапускае цэнзуры.**




Аднак права як сістэму абавязковых, фармальных правілаў, гарантаваных дзяржавай, варта адрозніваць ад правапрымяняльнай практыкі. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. 2 верасня, падчас размовы з вучнямі новай сталічнай школы, АП не ўтрымаўся і пахваліўся, што ў яго «ёсць электрычная машына Tesla», якую яму «Маск падараваў».

Аднак у афіцыйным прэс-рэлізе інфармацыя пра падарунак амерыканскага мільярдэра адсутнічае. Прыводжу адпаведны фрагмент цалкам: «Аляксандр Лукашэнка прызнаўся, што сам з'яўляецца прыхільнікам электратранспарту. "Самы любімы электраматацыкл. Наш мінскі ўжо робіць завод. Добрая штука. Вядома, ён не ляціць на 180 кіламетраў на гадзіну, як "Тэсла". Але вельмі прыемна. Мы будзем усё больш пераходзіць на электрамабілі».

Бедны Маск! Ён зрабіў падарунак кіраўніку дзяржавы, а нейкі канцылярскі пацук выкінуў з афіцыйнага тэксту словы ўдзячнасці, словы, вымаўленыя кіраўніком дзяржавы перад дзецьмі! Вось і рабі пасля гэтага падарункі.

Але Маск такі ўчынак беларускага клерка перажыве. Урэшце існуюць дыпламатычныя каналы, па якіх, я ўпэўнены, ужо накіраваныя прабачэнні.

### Захавальнік ментальнага кансенсусу

Чаму Візантыйская імперыя не выстаяла пад націскам турэцкага султана? Таму што не змагла аб'яднаць веру і праўду. Для маскоўскіх ідэолагаў часоў Івана Жахлівага гэта было відавочна. Пра тое, што сіла не ў Богу, а ў праўдзе, ведаў яшчэ Аляксандр Неўскі.

У кожнага часу — свае героі. Для чалавека савецкага ў пачатку «нулявых» такім героем стаў Даніла Багроў з фільма «Брат 2». У эпоху вялікіх пераменаў, калі з кантэксту выпала цэлая краіна, ён прапанаваў універсальны рэцэпт асабістага выратавання. Прыводжу яго цалкам: «Вось скажы мне, амерыканец, у чым сіла? Хіба ў грошах? Вось і брат кажа, што ў грошах. У цябе шмат грошай, і што? Я вось думаю, што сіла ў праўдзе: у каго праўда, той і мацнейшы!»

З такіх індывідуальных праўдаў, як з цаглінак, і была пабудаваная ў Беларусі дзяржава для народа, дзяржава праўды. Зразумела, не абышлося без архітэктара, без чалавека, якому «на працягу чвэрці стагоддзя атрымліваецца захоўваць ментальны кансенсус з беларускім народам».

Аўтар часткі сказу, што ўзятая ў двукоссі, — доктар філасофскіх навук Леў Крыштаповіч, чалавек у краіне недаацэнены, прычым як прыхільнікамі, так і крытыкамі беларускай мадэлі. Не выключана, што прычыну недаацэненасці варта шукаць у элементарнай зайздрасці. Ці шмат у Беларусі гуманітарыяў, здольных свабодна апераваць паняццем «ментальны кансенсус»? Сярод маіх калегаў, напрыклад, такіх няма.

У аснове кожнай буйной сацыяльнай сістэмы мы лёгка можам разгледзець яе сістэмаўтваральны элемент. У індыйскай сістэме — гэта каста, у антычнай — поліс, у капіталістычнай — капітал. А што з'яўляецца сістэмаўтваральным элементам беларускай мадэлі? Я думаю, чытачы ўжо здагадаліся. Ну вядома — гэта праўда. Для тых, хто ў гэтым сумняваецца, я працытую АП: «Каго мы хочам падмануць? Народ? Народ ніколі не падманеш. Ён, можа, іншы раз і змаўчыць, але праўду ўсё роўна бачыць. Калі мы будзем мірыцца з ашуканствам, фармалізмам, імітацыяй дзейнасці, народ усіх нас адсюль хутка папросіць. І мае рацыю!»

Але вось ужо чвэрць стагоддзя народ не просіць. І ўсё чаму? І ўсё таму, што беларускія начальнікі не мірацца з ашуканствам, фармалізмам і імітацыяй дзейнасці. У Беларусі народу з начальнікамі пашанцавала, зрэшты, як і начальнікам з народам.

### «Школу трэба прыводзіць да прытомнасці»

Народ ніколі не падманеш. Начальнікі прымаюць законы, начальнікі іх і ўжываюць, а народ... прыдумляе прыказкі і прымаўкі. «Закон — што дышаль...» — адна з самых папулярных. Такі вось падзел працы.

***Наша праўда*** — функцыя ад месца ў адміністрацыйнай іерархіі і ад грошай. Мае рацыю заўсёды той, у каго больш праваў. А для тых, хто гэтую ісціну не ўсмактаў з малаком маці, існуюць шматлікія кантрольныя і сілавыя структуры. Таму наша дзяржава не толькі прававая, але і рэпрэсійная. Пра гэта АП неаднаразова нагадваў 2 верасня педагогам і вучням мінскай школы № 93.

Прывяду невялікую падборку выказванняў, якія змяшчаюць слова «дысцыпліна», запазычаную на сайце БЕЛТА: «...заклікаў да большай дысцыпліны ў сценах школы, арыентаванасці на вучобу і дасягненне выніку». «Школу трэба прыводзіць у прытомнасць. Школа — гэта храм. Ты прыйшоў сюды, табе тут бясплатна даюць адукацыю». «На вучобу, як у храм, трэба прыходзіць з чыстымі думкамі — Лукашэнка запатрабаваў узмацніць дысцыпліну ў школе. Кіраўнік дзяржавы канстатаваў, што дысцыпліна ў школе моцна ўпала, таму міністру адукацыі, губернатарам і мэру Мінска пастаўлена задача прыняць меры для ўзмацнення парадку і дысцыпліны ў навучальных установах».

Вось так, мы будавалі, будавалі і нарэшце пабудавалі школу-храм, якую трэба прыводзіць да прытомнасці. Хто ж нясе персанальную адказнасць за тое, што яна знаходзіцца ў коме, — міністр адукацыі, губернатары, мэр Мінска або той, каму амерыканскі мільярдэр падарыў «электрычную машыну Tesla»? Машына гэтая, калі хто забыўся, «ляціць на 180 кіламетраў на гадзіну». На такой хуткасці ўспрымаць рэальнасць адэкватна надзвычай няпроста.

### «Мы пакуль не чапаем інтэрнэт»

*Наша праўда* — гэта своеасаблівы сурагат права. «Бо "праўда", — тлумачыць акадэмік Юрый Півавараў, — як яшчэ ў XI стагоддзі вучыў мітрапаліт Іларыён, ёсць і ісціна, і цнота, і справядлівасць, і закон. Рэлігійна-маральны пачатак утрымлівае ў сабе і пачатак юрыдычны. Ці, дакладней, — не дае яму крышталізавацца».

***Наша праўда*** — яна не ўніверсальная, яна лакальная. Яе актуальнасць не выходзіць за тэрыторыю, насельнікі якой маюць магчымасць знаёміцца з версіямі падзей, што распаўсюджваюцца беларускім тэлебачаннем. Выбары-экзамены; парламент, які самастойна не распрацоўвае законы; ідэалагічная вертыкаль, што спраўна функцыянуе, нягледзячы на адсутнасць дзяржаўнай ідэалогіі, — тыповыя прыклады *нашай праўды*. Да іх можна смела дадаць і ***нашу дэмакратыю.*** Яе ў нас не менш, чым на Захадзе. На гэтым пералік арыгінальнага і самабытнага не заканчваецца.

Але калі адказнасць за распаўсюд праўды ўскладзеная на тэлевізійны сігнал, то за будучыню такой праўды становіцца трывожна. Крыху афіцыйнай сацыялогіі ад Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра: з 2009 па 2018 гады колькасць рэспандэнтаў, якія разглядаюць тэлебачанне ў якасці крыніцы інфармацыі пра жыццё ў Беларусі і за мяжой, скарацілася з 91% да 72%, у той час як доля інтэрнэту, наадварот, узрасла з 24% да 60%. Не выключана, што ўжо ў бліжэйшыя год-два аўдыторыя інтэрнэту перавысіць аўдыторыю тэлебачання.

Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што актуальнасць тэмы інфармацыйнай бяспекі расце як на дражджах. Свежы прыклад — міжнародная канферэнцыя «Барацьба з тэрарызмам пры дапамозе інавацыйных падыходаў і выкарыстання новых узнікаючых тэхналогій», якая адбылася ў Мінску 3 верасня. Абмяжуюся адной цытатай: «У Беларусі як у суверэннай краіны ёсць уласнае меркаванне на тэму маральных, этычных і прававых межаў свабоды інтэрнэту. Я так свабодна кажу наконт пытання інтэрнэту, таму што ніхто з вас мяне не папракне, што мы хоць у чымсьці абмежавалі інтэрнэт у Беларусі. Хоць і трэба было б. Але пакуль яшчэ не ведаем, як гэта зрабіць так, каб цывілізаванае грамадства зноў не падвергла нас санкцыям. Таму мы пакуль не чапаем інтэрнэт. Справа, час церпяць».

Нізкі паклон цывілізаванаму грамадству. Калі б не яно, то ў адпрацаваныя на тэлебачанні маральныя, этычныя і прававыя межы даўно былі б пастаўлены і інтэрнэт. Але пакуль «справа, час церпяць».

Сітуацыя з праўдай ускладняецца яшчэ і тым, што праўда сярод родных бярозаў і асінаў з'яўляецца сінонімам справядлівасці. Гаворка, зноў жа, ідзе пра нашу справядлівасць, пра справядлівасць народа, які не імкнецца стаць часткай цывілізаванага свету. Прынамсі такая задача на афіцыйным узроўні за апошнюю чвэрць стагоддзя ні разу не ставілася.

Галоўная асаблівасць нашай справядлівасці палягае ў тым, што яна стаіць вышэй за закон. АП увесь час пра гэта нагадвае: «Усё ў законах не прапішаш. І калі дзесьці не хапае заканадаўчай базы — дзейнічай па справядлівасці. Справядлівасць вышэйшая за закон заўсёды, калі на тое пайшло. Бываюць несправядлівыя законы, а само паняцце справядлівасці (можна сказаць, філасофскае паняцце) абсалютнае».

Усё правільна, калі б не адно «але». Справядлівасць у кожнага свая. Ёсць справядлівасць уладальнікаў падараванай Tesla, а ёсць справядлівасць тых, хто глытае пыл, калі электрычныя машыны праносяцца міма на хуткасці 180 кіламетраў на гадзіну.

# Урбаністыка ратуе гарады

Кацярына ЯРОМІНА

**Мінск зручны для асобы, якая працуе, у якой няма сям'і. Калі ж у цябе з'яўляюцца дзеці, то ўзнікаюць пытанні з маштабамі, адлегласцямі і інфраструктурай. І тут на дапамогу павінна прыйсці ўрбаністыка.**



**Вуліца Камсамольская ў Мінску.** Фота аўтаркі



**Праект «Альтэрнатыўны двор: Серабранка».** Фота Таццяны Капітонавай

Пра карысць урбаністыкі, праблемы беларускіх гарадоў і спосабы іх вырашэння распавяла **Надзея Царанок**, архітэктарка, урбаністка, удзельніца Мінскай урбаністычнай платформы і выкладчыца ECLAB.

— Урбаністыка — гэта комплексная навука аб развіцці горада, якая закранае розныя аспекты яго існавання: палітычныя, эканамічныя сацыяльныя. Яна глядзіць на тое, што адбываецца, значна шырэй, чым, напрыклад, горадабудаўніцтва. На жаль, у эпоху мадэрнізму мы былі схільныя вырашаць пытанні ў адпаведнасці з пэўнымі ідэаламі, не ўлічвалі ўсе складнікі, якія ўплываюць на развіццё горада. Але калі мы кіруемся толькі асобнымі дактрынамі, ёсць магчымасць памыліцца, а калі падыходзім да вырашэння пытання комплексна, як гэта робіць урбаністыка, то верагоднасць таго, што мы знойдзем правільны варыянт, больш высокая. Я часам параўноўваю ўрбаністыку з лекаваннем, бо ў горада таксама ёсць запаленыя, хворыя, і нават мёртвыя зоны, якія не працуюць. А калі туды прыходзіць архітэктар-урбаніст, ён можа дапамагчы гэтаму месцу працаваць для людзей і быць ім карысным. Працягваючы аналогію з медыцынай — для правільнага лячэння захворвання таксама выкарыстоўваюць яго комплексны аналіз.

Часта для архітэктараў-неўрбаністаў важна зрабіць праект адносна пэўных нормаў і правілаў, і тады мы не думаем, як гэта будзе потым працаваць, напрыклад, сацыяльна-эканамічна, ці трэба людзям менавіта такое рашэнне. Ва ўрбаністыцы ж вельмі важна закранаць усе аспекты, і сацыяльны — адзін з іх. Архітэктары могуць прыдумаць суперкрутую ідэю рэнавацыі нейкай тэрыторыі, але мясцовыя жыхары будуць абсалютна не гатовыя да гэтага, — магчыма, іх лайфстайл яшчэ не дарос. Таму вельмі важна разумець ступень гатоўнасці грамадства да зменаў. З іншага боку, асабіста мне падабаюцца месцы, якія праяўляюць пэўны пласт людзей.

Напрыклад, мы заўсёды ведалі, што хіпстары ў Мінску ёсць, але калі з'явілася Кастрычніцкая — месца, дзе яны могуць праявіцца, яны сабраліся тут. Або возьмем прыклад Зыбіцкай. Нібыта таксама пешаходная вуліца, шмат кавярняў, але там зусім іншая публіка. І гэта цікава, калі пэўная інфраструктура праяўляе розныя пласты грамадства, іх запыты і гатоўнасць мець менавіта гэты лайфстайл.

## Спачатку свядомасць, потым — гарады?

У ВНУ Беларусі спецыялістаў-урбаністаў не рыхтуюць, але цяпер канцэнтрацыю «Крытычная ўрбаністыка» запускае ECLAB. Канферэнцыі і летнія школы праводзіць Мінская ўрбаністычная платформа. Гэта не універсітэцкая адукацыя, але я лічу, што, магчыма, гэта нават больш правільна, калі ты сам шукаеш веды і разумееш, навошта яны табе патрэбныя. У такім выпадку ты, хутчэй за ўсё, будзеш выкарыстоўваць іх з большай эфектыўнасцю. Таму я не ацэньваю сітуацыю з адукацыяй з негатыўнага пункту гледжання: калі ты хочаш — інфармацыю знойдзеш. Літаратуры цяпер дастаткова, ёсць альтэрнатыўная адукацыя. Галоўнае — жаданне.

Калі мы гаворым пра развіццё горада, то вельмі важна паказаць людзям на прыкладзе, як гэта функцыянуе. Менавіта таму і патрэбна партысіпаторнае праектаванне (партысіпаторнае праектаванне мае на ўвазе ўключэнне ў працэс распрацоўкі праекта па добраўпарадкаванні тэрыторыі мясцовых жыхароў і супольнасцяў на ўсіх этапах: ад правядзення даследавання да рэалізацыі ідэі). Гэта адукацыйны кампанент, ён дапамагае навучаць людзей, тлумачыць, што мы прапануем, і паказваць, як тая ці іншая прастора можа развівацца і змяняцца, калі вы будзеце гатовыя і навучыцеся, напрыклад, сартаваць смецце.

У працэсе партысіпаторнага праектавання змяняецца свядомасць людзей. Яны разумеюць, напрыклад, што можна ўзаемадзейнічаць: не сядзець кожны ў сваёй кватэры, а ўзаемадзейнічаць для паляпшэння горада, таму што горад — гэта наша агульная адказнасць. І мы павінны думаць, што мы тут разам — і разам адказваем за тое, як мы жывем, а не толькі камунальныя службы. Калі мы хочам развіваць гарадскія тэрыторыі, то людзям важна адчуваць сваю далучанасць, бо псіхалогія працуе так: калі гэта не мае, чаму я павінен нешта рабіць? А вось калі людзі выходзілі і самі нешта рабілі, як гэта было ў партысіпаторных праектах «Альтэрнатыўны двор: Аўтазавод» і «Альтэрнатыўны двор: Серабранка», з'яўлялася адчуванне далучанасці.

Пасля анонсаў партысіпаторных праектаў заўсёды ўзнікала хваля цікавасці, людзі прасілі дапамогі, парады, як правільна што-небудзь зрабіць і ў сваім двары, хацелі замовіць такое ж даследаванне. Гэта значыць, што ёсць жаданне мясцовых жыхароў. Я бачу таксама зацікаўленасць і гатоўнасць ісці насустрач адміністрацыі жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

**Мінск вельмі стэрыльны, вылізаны горад, дзе людзі ў асноўным толькі ходзяць. На жаль, так. Калі параўноўваць з тым жа Кіевам, які быццам зусім побач, то там людзі затрымліваюцца на вуліцах, а ў нас толькі ідуць**

Напрыклад, у праекце «Серабранка. Мой спальны» ў нас ёсць дамоўленасць: калі мы зможам сабраць сто працэнтаў сродкаў на праектна-каштарысную дакументацыю, горад рэалізуе сам праект. Толькі гэта няходжаныя дарожкі. Быццам бы ўсё лёгка: мы збіраем грошы, а горад рэалізоўвае. Але на справе гэта складана, таму што не было такога досведу — і мы шукаем, як гэта правільна зрабіць з прававога пункту гледжання. У нас яшчэ няма распрацаваных механізмаў.

Адзначу, што трансфармацыі і асэнсаванне новых падыходаў да развіцця горада адбываюцца і ў адміністрацыі на месцах. Людзі разумеюць, што трэба нешта змяняць, спрабуюць ісці наперад, але проста не ведаюць, якім чынам гэта рабіць. У той жа час ёсць, напрыклад, праект ПРААН «Зялёныя гарады», які ахоплівае Полацк, Наваполацк і Навагрудак. І вялікі дзякуй ПРААН, іх праца вельмі эфектыўная. Калі мы прыехалі ў гэтыя гарады пагутарыць з адміністрацыяй на месцах, то ўбачылі, наколькі яны зацікаўленыя ў тым, каб працаваць і развіваць свой горад. Асабліва ў Навагрудку, дзе і па энергаэфектыўнасці, і па раздзельным зборы смецця робяць вельмі шмат. Але там з асобным зборам смецця ўсё ўперлася ў тое, што людзі яшчэ да гэтага не гатовыя: адміністрацыя паставіла скрыні, а людзі не сартуюць. Бо трэба спачатку растлумачыць, чаму гэта важна. Чалавек павінен разумець, навошта яму гэта трэба, чаму гэта так функцыянуе і чаму ўсё грамадства ад гэтага выйграе. Калі мы не тлумачым, то нават самая лепшая ініцыятыва не будзе працаваць. Мяняць лад жыцця дапамагаюць усведамленне, веды і назапашаны вопыт.

## Мінск — горад для чалавека?

Мы жывем у Мінску, і нам увесь час хочацца рабіць яго лепшым, але я хачу сказаць, што наш горад не такі дрэнны. Ёсць многія рэчы, якія варта ацаніць, напрыклад, грамадскі транспарт — і ўнутрыгарадскі, і міжгародні. Банальна, але так, — у нас вельмі сочаць за тэрыторыяй і ўсё чыста і акуратна, і ўсе замежнікі захапляюцца гэтым. Боль, асабіста для мяне, — сацыяльнае, масавае жыллё. — Метады праектавання не адрозніваюцца ад таго, што было 20–30 гадоў таму, час многае пераасэнсаваць і зусім па-іншаму падыходзіць да гэтага пытання. Напрыклад, панэльныя дамы, якія мы будуем, могуць быць і іншымі.

З пункту гледжання зручнасці для чалавека ўсё залежыць ад таго, які ў цябе лад жыцця. Мінск зручны для асобы, якая працуе, у якой няма сям'і. Калі ж у цябе з'яўляюцца дзеці, то ўзнікаюць пытанні з маштабамі, адлегласцямі і інфраструктурай. Я жыву ў Серабранцы, і з дзіцём я наўрад ці дайду да Лошыцкага парку, а парк Веры Грэкавай, які знаходзіцца побач, не добраўпарадкаваны так, як хацелася б. А вось калі б у Серабранцы было больш інфраструктуры, я б сказала, што гэта добры раён для жыцця. Калі разглядаць Новую Баравую «А-100», то гэта абсалютна спальны раён. Там ёсць дзіцячы садок, дабудоўваюць школу, але для мяне пытанне, ці было б мне зручна ў гэтым раёне, улічваючы, што ў мяне няма асабістага аўтамабіля, каб кожны дзень ездзіць на працу ў горад. Бо зручнасць — гэта заўсёды пытанне ладу жыцця, яго цыклаў. Для кагосьці Мінск здаецца надзвычай зручным, для іншых — не.

Са свайго вопыту розных гарадоў, я магу сказаць, што для мяне Мінск вельмі стэрыльны, вылізаны горад, дзе людзі ў асноўным толькі ходзяць. На жаль, так. Калі параўноўваць з тым жа Кіевам, які быццам зусім побач, то там людзі затрымліваюцца на вуліцах, а ў нас толькі ідуць.

Так адбываецца, таму што няма арганізаваных публічных прастораў, дзе можна было б праводзіць час. Калі на Кастрычніцкай ёсць месцы з хаця б мінімальнай колькасцю вулічнай мэблі, дзе можна проста адпачыць, то ў іншых месцах не. Нават калі хтосьці зрабіў кавярню на вуліцы, то мы ўсё роўна не ўключаныя ў гэту прастору. Як мінак я не магу проста сядзець у іх на тэрасе, мне трэба што-небудзь замовіць.

Тут для параўнання можна прывесці прыклад Магілёва. Я ў захапленні ад таго, як там працуюць і паступова развіваюць сетку грамадскіх прастораў у цэнтры горада. Магілёў вельмі прыемны для адпачынку горад. Ён цябе не прэсуе, ён чалавечага маштабу, за выключэннем будынка выканкама. Ёсць, вядома, і не вельмі прыемныя моманты. Напрыклад, зрабілі парк на Дняпры. Для мяне як для абывацеля гэта выдатна, але як у прафесіянала ў мяне да гэтага парка шмат пытанняў. Бо можна было зрабіць лепш, цікавей, зрабіць выхад да набярэжнай. У нас увогуле вельмі шмат гарадоў стаіць на рэках, пры гэтым, на жаль, у людзей няма паўнавартаснага доступу да добрых набярэжных.

Мінск ужо ў нейкай ступені еўрапейскі горад, і мы працягваем паступова рухацца ў гэты бок. Возьмем хаця б вуліцу Камсамольскую. Мы можам казаць, што ўсё дрэнна, але я хачу шукаць пазітыў. Рэалізацыя гэтага праекта дазволіла нам назапасіць нейкую колькасць памылак і досведу аб тым, як рабіць не трэба, і цяпер для нас самае важнае — рухацца наперад з улікам гэтага. Мы заўсёды будзем набіваць шышкі, і гэта нармальна, галоўнае — рэфлексаваць, аналізаваць і ісці наперад.

# Праваахоўнікі вяртаюцца

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Цэнтр Еўропы, XXI стагоддзе: паўтары гадзіны шаблоннай размовы з псіхіятрам — і дыягназ «шызафрэнападобны разлад» гатовы. Звычайная побытавая гісторыя пра каханне і рэўнасць скончылася крымінальнай справай ды пагрозай прымусовага лячэння.**


Фота www.fazarosta.com

## Перадгісторыя

Гэтая справа магла б заінтрыгаваць нават Шэрлака Холмса, калі б ён існаваў і завітваў у наш час у нашыя краі. Для раскрыцця падрабязнасцяў не хапіла б і ўсёй газетнай плошчы, але коратка акрэсліць можна. Гераіня гэтага артыкулу Марыя Аляксеенкава — юрыстка, якая цяпер працуе ў сферы аўдыту, збіралася пабрацца шлюбам са сваім даўнім сябрам спадаром М., асуджаным на 3 гады турмы за махлярства. На той час М. быў жанаты, але, як ён распавядаў Марыі, збіраўся разводзіцца і нават пераехаў да Аляксеенкавай жыць ды ўзяў у карыстанне яе аўтамабіль. Хоць, ужо будучы ў турме, М. развёўся з жонкаю, з Аляксеенкавай, нягледзячы на прапанову з яго боку, шлюбам так і не пабраўся. Аднак падчас судовага працэсу жонка даведалася пра існаванне суперніцы — і з гэтага часу на Марыю Аляксеенкаву адна за адной пачалі сыпацца непрыемнасці.

Да непрыязнага стаўлення ды пагалоскі між супольнымі сябрамі Марыя была гатовая, а вось да адміністрацыйных разбіральніцтваў, а за імі і крымінальнай справы — не. Марыя Аляксеенкава лічыць, што з матываў рэўнасці ды помсты экс-жонка М. вырашыла замовіць справу супраць яе, карыстаючыся сваімі сувязямі — знаёмымі пракурорамі, міліцыянтамі ды суддзямі. Пакуль мы не можам апублікаваць канкрэтныя прозвішчы, але гэтыя людзі маюць дачыненне да Цэнтральнага і Маскоўскага райаддзелаў: дарэчы, пра фальсіфікацыі спраў супрацоўнікамі менавіта гэтых райаддзелаў гаварыў Аляксандр Лукашэнка падчас рэзананснай жнівеньскай нарады з праваахоўнікамі.

Паколькі ані КДБ, куды Марыя звярталася са скаргаю на дзейнасць пракурора, ані Адміністрацыя прэзідэнта, куды Марыя высылала ўсе матэрыялы па сваёй справе, не дапамаглі ёй аднавіць справядлівасць, Марыя звярнулася да журналістаў.

## Ад побытавай рэўнасці да крымінальнай справы

Мы сустрэліся з Марыяй і яе бацькам, які цяпер прадстаўляе інтарэсы дачкі ў судзе, у адным са сталічных паркаў. Маладая прывабная жанчына ўпэўнена гаворыць, пісьменна складае фразы, кантралюе эмоцыі — гэта ўсё істотныя дэталі, улічваючы, што ў паперах Марыі значыцца дыягназ «шызафрэнападобны разлад».

«У 2017 годзе мяне раптоўна сталі правяраць супрацоўнікі некалькіх раённых аддзелаў МУС. Аказваецца, па месцы працы экс-жонкі М. (адзін з мінскіх банкаў) і яе маці («лечкамісія» — шпіталь Кіравання справамі прэзідэнта РБ), а таксама ў структуры апекі прыйшлі лісты, што спадарыня М. мае судзімага мужа і не займаецца выхаваннем маленькай дачкі. Экс-жонка напісала ў паказаннях, што гэтыя лісты магла выслаць я, а я, у сваю чаргу, напісала заяву, каб яе прыцягнулі да адказнасці за паклёп. Паколькі не пацвердзілася ні тое, ні другое, адміністрацыйныя разбіральніцтвы спынілі. Тады нават рабілі экспертызу майго почырку, але эксперты не прызналі, што почырк на лістах мой», — распавядае Марыя Аляксеенкава.

Можна было б падумаць, што ўсё і скончана, але гэта быў толькі пачатак. У чэрвені 2018 года Аляксеенкаву папрасілі спусціцца з працоўнага кабінета ў хол, дзе яе чакалі супрацоўнікі міліцыі. Падумаўшы, што міліцыянты прыехалі браць тлумачэнні па чарговай ананімнай заяве, Марыя па іх просьбе села ў міліцэйскую машыну. Тыя ж павезлі жанчыну ў яе ўласную кватэру на вобшук, падчас якога сканфіскавалі медыцынскія паперы (Марыя хварэе на цукровіцу), ноўтбук і прынтар. Аказваецца, ананім ад імя экс-жонкі М. даслаў друкаваную «яўку з павіннай» у Следчы камітэт з прызнаннямі ў распаўсюдзе наркотыкаў, а таксама рукапісную заяву ў псіхіятрычную клініку ў Навінках з падобным прызнаннем і просьбай аказаць ёй псіхіятрычную дапамогу. З лякарні, у сваю чаргу, звярнуліся ў праваахоўныя структуры. Калі экс-жонку М. апыталі наконт заяваў, яна сказала, што нічога не дасылала, але падазрае, што гэта магла зрабіць Аляксеенкава.

Марыя гэта катэгарычна адмаўляе: «Безумоўна, я гэтага не рабіла. На той час у мяне было ўсё скончана з М., ніякіх стасункаў з яго былой жонкай я таксама не мела. У мяне ёсць свая версія: М. мусіў хутка выйсці на свабоду, і, магчыма, яго жонка баялася, што ён вернецца да мяне. Таму вырашыла засадзіць мяне за краты, тым больш патрэбныя для гэтага сувязі ў яе ёсць».

Далей падзеі разгортваліся хутка: Аляксеенкаву перавялі ў статус падазраванай. Следчыя і пракуроры дапускалі працэсуальныя памылкі, кожную з якіх Марыя, якая раней працавала сакратарам судовага пасяджэння, а пасля судовым выканаўцам, грунтоўна абскарджвала. Безумоўна, гэта праваахоўнікам не падабалася. Падчас аднаго з допытаў следчая нават узяла Марыю пад варту, і жанчыну адвезлі на Акрэсціна. Супрацоўнікі ізалятара адмовіліся трымаць у сябе хворага на цукровіцу чалавека, і яе канваявалі ў шпіталь. На наступны дзень тая ж следчая вынесла пастанову пра вызваленне Марыі, і жанчыну адпусцілі прама са шпіталя, праўда, на 6 гадзін пазней, чым было пазначана ў пастанове.

Разумеючы, што ў выпадку заказной справы яна не знойдзе справядлівасці ў праваахоўнікаў, Аляксеенкава звярнулася са скаргаю на дзейнасць пракурора ў КДБ. Праз трэцых асобаў Марыі перадалі ўмову: адклікай скаргу, і тады мы спынім крымінальную справу. Аляксеенкава адмовілася адклікаць заяву, пакуль справа не спыненая. У выніку справа ўсё ж засталася, а КДБ спусціў паперы для праверкі ў Генпракуратуру, якая традыцыйна «не знайшла парушэнняў». Пры правядзенні пракурорскай праверкі Аляксеенкава пісьмова паведамляла, што можа прадставіць доказы карупцыйнай змовы супраць яе, але гэтая інфармацыя нікога не зацікавіла.


Марыя Аляксеенкава з бацькам

**Справа па рукапісным лісце ў Навінкі была ўзбуджана толькі пасля адмысловых заяваў ад пацярпелых. Яны напісалі такія заявы напрыканцы верасня. Чаму ж экспертыза почырку праводзілася яшчэ летам, калі справа нібыта не была заведзеная?**

## Чаму экспертызу правялі раней, чым завялі справу?

Па справе Аляксеенкавай было прызначана некалькі экспертызаў. Першая экспертыза прызнала немагчымым высветліць, ці на яе прынтары была надрукавана тая самая «яўка з павіннай». Другая экспертыза, падчас якой былі даследаваныя файлы (у тым ліку, і выдаленыя) з ноўтбука, не выявіла, што файл, падобны да той самай «яўкі з павіннай», ствараўся ці быў захаваны/выдалены на ноўтбуку Марыі.

Дактыласкапічная экспертыза паказала, што на экземпляры рукапіснай заявы ў Навінкі ёсць адбітак аднаго пальца Марыі. Жанчына мае тлумачэнне гэтаму: «Мне проста сказалі перапісаць урывак з рукапіснай заявы почыркам, падобным да таго, якім была напісана заява. Падчас перапісвання я выпадкова закранула адным пальцам дакумент. Я думала, што ўсе адбіткі пальцаў ужо знятыя, таму не баялася гэтага. Пасля следчы мне паведаміў, што перада мною быў арыгінал. Пры гэтым, перад тым, як класці яго перада мною, ніхто не правяраў яго на наяўнасць маіх адбіткаў».

Што цікава, падчас жнівеньскай нарады з праваахоўнікамі, калі Лукашэнка крытыкаваў працу следчых і міліцыянтаў, асабліва ў Фрунзенскім, Маскоўскім і Цэнтральным раёнах, ён казаў наступнае: «У затрыманых асоб адбіраюць узоры, у тым ліку пакінутыя імі ўжо пры правядзенні працэсуальных дзеянняў, а затым яны наносяцца на выманы прадметы і рэчы, што ў далейшым пры экспертным даследаванні такіх аб'ектаў "даказвае" здзяйсненне злачынства загадзя вядомай асобай. Прамая падробка і фальсіфікацыя!» Нічога не нагадвае?

Экспертыза почырку паказала, што почырк, якім была напісаная заява, — гэта почырк Марыі, якая быццам бы адмыслова змяніла нахіл. А ў наступным абзацы гэты ж самы эксперт сцвярджае, што высветліць, ці тэкст выкананы намерана змененым почыркам, не прадстаўлялася магчымым. Ніякай яснасці! Да таго ж нават неабазнанаму чалавеку зразумела, што калі б дасведчаная юрыстка, што не адзін год прапрацавала ў судзе, хацела напісаць падобную заяву, якая цягне на крымінальны артыкул, яна б знайшла спосабы не пісаць ліст сваёй рукой. Цікава і другое: справа па рукапісным лісце ў Навінкі была ўзбуджана толькі пасля адмысловых заяваў ад пацярпелых — экс-жонкі М. і яе маці. Яны напісалі такія заявы напрыканцы верасня. Чаму ж, рэзонна заўважае Марыя, экспертыза почырку праводзілася яшчэ летам, калі справа нібыта не была заведзеная? Па словах Аляксеенкавай, пасля напісання заяваў пацярпелымі следства было ўзбуджана, расследавана і перададзена пракурору за адзін дзень.

## За паўтары гадзіны знайшлі хваробу?

Але самай інтрыгуючай і, на жаль, вызначальнай, апынулася псіхіятрычная экспертыза.

У жніўні, праз два месяцы пасля першага допыту, тая самая следчая, якая выносіла пастанову пра затрыманне Марыі, адправіла Аляксеенкаву на стацыянарную экспертызу ў Рэспубліканскі навукова-прак-

# да карнай псіхіятрыі?

тычны цэнтр псіхіятрычнага здароўя (у Навінках). Дарэчы, зазначым, што Марыя ніколі ў падобных установах ці дыспансерах на ўліку не стаяла.

«З допыту мяне прывезлі ў Навінкі. Лекары перакінуліся са мною парай словаў, і сказалі — дык яна ж, маўляў, нармальная, ёй тут няма чаго рабіць. Пасля міліцыянты пачалі ім нешта распавядаць, а мяне папрасілі выйсці з кабінета. І пасля гэтага лекары сказалі — ідзіце пераапранацца ў бальнічную вопратку і скіроўвацеся ў палату. Ужо ў палаце пацыенты распавялі мне, што стацыянарная экспертыза праводзіцца тры тыдні. Паколькі пастанова следчай наконт экспертызы была для мяне нечаканай, я не рыхтавалася да экспертызы, у мяне не было з сабою неабходнага інсуліну. Я распавяла пра гэта медперсаналу, і праз нейкі час мяне ўсё ж адпусцілі, а ўвечары таго ж дня следчая вынесла пастанову пра амбулаторную экспертызу. У матэрыялах справы гэты мой прымусовы візіт у Навінкі наогул не зафіксаваны, як быццам бы я і не прабыла там некалькі гадзін», — гаворыць жанчына.

Што такое амбулаторная экспертыза? Аляксеенкава зрабіла дыктафонны запіс і расшыфроўку размовы з псіхіятрам і псіхолагам. Уся размова заняла каля паўтары гадзіны: лекары распытвалі Марыю пра сям'ю, вучобу, працу ды хобі — нічога надзвычайнага. Пасля яе папрасілі выканаць нескладаныя заданні: напрыклад, па чарзе паўтарыць тыя словы, якія называе лекар. Па выніках гэтай размовы эксперты зробяць адмысловае заключэнне, якое прагучыць у судзе і стане асноўнай версіяй. І заключэнне гэта — шызафрэнічны разлад.

### Прысуд — завочна

Пасля экспертызы Аляксеенкаву фактычна пакінулі ў спакоі — так, прынамсі, падавалася. Аднак у лістападзе на хатні нумар ёй патэлефанавалі з Гарадскога клінічнага псіхіятрычнага дыспансера Мінска і сказалі, што паводле рашэння суда яна павінна прыйсці да іх. Марыя скіравала пісьмовы запыт з пытаннем, што за суд і што за рашэнне маецца на ўвазе, і была шакіраваная адказам: аказваецца, крымінальная справа была разгледжана завочна, і суд Цэнтральнага раёна вынес рашэнне пра ўжыванне да яе прымусовых мераў бяспекі і прымусовага лячэння ў стацыянары пад назіраннем.

«Ані позваў, ані смс-паведамленняў ні мне, ні маім бацькам не прыходзіла. У якасці законнага прадстаўніка запрасілі юрысконсульта 1-й гарадской паліклінікі, хоць я і да гэтай паліклінікі нават не адношуся. Юрысконсульт паведаміла ў судзе, што прычын не давяраць высновам эксперта ў яе няма, сама ж яна мяне не ведае, і ніколі ў жыцці не бачыла. Адвакат юрыдычнай кансультацыі №2 Цэнтральнага раёна, якога мне прызначылі, сказаў на судзе, што «аспрэчваць доказнасць віны маёй падабароннай падставаў не знаходзіць» (з пратаколу судовага пасяджэння) і просіць ужыць прымусовыя меры. І гэта абаронца маіх інтарэсаў?» — абураецца жанчына.

Суд, як і чакалася, таксама не знайшоў падставаў не давяраць высновам экспертаў і прызнаў Марыю псіхічна нездаровай. А псіхічная хвароба, быццам бы, выкліканая рэўнасцю, нянавісцю з-за спынення стасункаў з М. Ад крымінальнай адказнасці Марыю вызвалілі, бо яна, нібыта, не ўсведамляла свае дзеянні, але, паколькі Аляксеенкава быццам уяўляе грамадскую небяспеку, суд прызначыў прымусовае лячэнне. Дарэчы, судовы працэс вёў суддзя Есьман, вядомы многім дэмакратычным актывістам па сфальсіфікаваных прысудах. Зрэшты, чаму здзіўляцца? У матэрыялах справы фігуруе і Артур Шахлай — кіраўнік Цэнтральнага РУУС Мінска, які мае такую ж сумнеўную рэпутацыю.

### Заключэнне экспертаў сумневу не падлягае?

Бацька жанчыны падаў наглядную скаргу ў Мінскі гарадскі суд на «завочны» прысуд. Пасля гэтага прысуд Есьмана адмянілі, справу разглядаў іншы суддзя Цэнтральнага суду, але вынік застаўся тым жа самым. Праўда, паўторны суд прызнаў: доказаў таму, што Марыя зрабіла «яўку з павіннай» на сваім кампутары, не прадстаўлена, таму выключыў гэта з «апісання грамадска небяспечных дзеянняў».



У любым выпадку, палёгкі гэта не прынесла. На Марыю павесілі цэтлік псіхічна нездаровай, і цяпер яна ніяк не можа абараніцца. «Я нават не магу выступіць у судзе, нешта растлумачыць, распавесці. Экспертамі яшчэ да суду прызнана, што я самастойна не магу абараніць свае правы, мяне цалкам пазбавілі голасу. Цяпер за мяне ў якасці абаронцы маіх інтарэсаў выступае мой бацька», — апісвае яна сваё адчайнае становішча. Яно сапраўды падаецца безвыходным — як цяпер «адмазацца» ад дыягназу, калі любая спроба абараніцца і дамагчыся справядлівасці трактуюцца як нязначныя словы псіхічна хворай?

Цікава, што падчас судовых разбіральніцтваў эксперты, якія праводзілі псіхіятрычную экспертызу, прызналіся, што не ведаюць, ці праўдзівыя, ці даставерныя тыя паклёпніцкія лісты, у напісанні якіх вінавацяць Аляксеенкаву. Але іх колькасць, сэнсавая нагрузка, агульнае сцверджанне пра карупцыйную змову дазваляюць зрабіць выснову пра разлад псіхікі Марыі. Маўляў, калі чалавек гаворыць, што міліцыя, пракуратура ды суд змоўлена дзейнічаюць супраць яго, — значыцца, ён пакутуе на шызафрэнію. Фактычна, чалавеку не даюць права аспрэчваць сумленнасць дзяржаўных структур. Бацька Марыі на адным з судовых пасяджэнняў узняў гэтае пытанне: чаму Марыі адмаўляюць у праве мець такое меркаванне, сумнявацца ў справядлівым расследаванні крымінальнай справы? Адказу не было. Калі карыстацца гэтай логікай, у шызафрэнікі можна запісаць кожнага другога. І тых, хто сцвярджае, што ў нас фальсіфікуюцца выбары, — ЦВК ж гаворыць адваротнае! І людзей, якія гавораць пра катаванні ў ізалятарах, — МУС жа гэта не пацвярджае! А што ўжо казаць пра настаўнікаў, якія заяўляюць пра прымусовыя падпіскі на дзяржаўныя газеты, — «сумленнае» Міністэрства адукацыі пра такія выпадкі і чуць не чула!

**«Гэта значна горш, чым проста турэмны прысуд. У турме ёсць вызначаны тэрмін — адсядзеў і выйшаў, працуеш, заводзіш сям'ю... А чалавек, у дачыненні да якога прызначана прымусовае лячэнне, можа прабыць у шпіталі невядома колькі часу, не мае ніякіх канкрэтных перспектываў»**

Пакуль цягнуліся разбіральніцтвы, Марыя паралельна атрымала правы, ужо маючы фармальны дыягназ «шызафрэнічны разлад» удзельнічала ў якасці прадстаўніка адказчыкаў у іншых судовых працэсах (аказвала юрыдычную дапамогу), працягвала працаваць вядучым эканамістам у банку, а пасля ў сферы аўдыту. Ці мог бы гэта ўсё рабіць хворы чалавек, які прадстаўляе грамадскую небяспеку? Няўжо медкамісія ды суддзі па іншых працэсах не заўважылі б, што чалавек псіхічна нездаровы? Калегі таксама нічога асаблівага не адзначаюць у паводзінах Марыі — у матэрыялах судовай справы ёсць цудоўная станоўчая характарыстыка Марыі, дадзеная банкаўскім кіраўніцтвам.

«Такая помста з боку эксжонкі М. (а я мяркую, што гэта менавіта так) — гэта значна горш, чым проста турэмны прысуд. У турме, як бы цяжка ні было, але ёсць вызначаны тэрмін — адсядзеў і выйшаў, далей працуеш, заводзіш сям'ю і гэтак далей. А чалавек, у дачыненні да якога прызначана прымусовае лячэнне, можа прабыць у шпіталі невядома колькі часу, не мае ніякіх канкрэтных перспектываў. Акрамя гэтага я баюся, што прызначанае лячэнне можа пашкодзіць мне як будучай маці, адмоўна паўплываць на рэпрадуктыўныя функцыі ды і на арганізм агулам», — працягвае Марыя.

### Недапрацоўка следчых ці адмысловая фальсіфікацыя?

Яшчэ шмат пытанняў засталіся без адказу: чаму следчыя не выкарысталі дадзеныя з камераў відэаназірання, якія б дакладна пацвердзілі ці абверглі тое, што 15 траўня Аляксеенкава адпраўляла «яўку з павіннай» з аддзялення «Белпошты» на Прывакзальнай плошчы Мінска (як пазначана ў матэрыялах справы)? Улічваючы, што гэта быў працоўны дзень, пры дапамозе запісаў, а таксама запісаў з камераў відэаназірання ў банку Марыі ды ў судзе (у гэты дзень яна была там па іншай справе, і мае адпаведную позву), можна было б лёгка не пахвілінна аднавіць той дзень, а не абмяжоўвацца экспертызай почырку.

Чаму ў рашэнні суда гаворыцца пра тое, што Марыя 28 красавіка адправіла рукапісную заяву ў «Навінкі» з аддзялення Белпошты па адрасе пр. Незалежнасці, 46, калі гэта была нядзеля, не працоўны ў гэтым аддзяленні дзень, праваслаўны Вялікдзень?

Чаму дактыласкапічная экспертыза прызнала, што на рукапісным лісце ёсць след аднаго пальца Марыі, а ўсе сляды на канверце ад гэтага ліста, па высновах экспертаў, непрыдатныя для ідэнтыфікацыі асобы? Можа таму, што на канверце наўпрост не было слядоў ад пальцаў Марыі? Больш за тое, у заключэнні эксперты пазначылі, што на рукапісным лісце, акрамя таго самага адзінага следу Марыі, ёсць прыдатныя для ідэнтыфікацыі сляды і нават адбітак далоні іншага чалавека. Дык чаму ж не правялі дактыласкапічную экспертызу, напрыклад, у дачыненні экс-жонкі М., якая, па словах Марыі, магла быць зацікаўленая ў крымінальнай справе супраць яе?

І гэта толькі тыя пытанні, якія адразу ўзнікаюць у не абазнанага ў юрыспрудэнцыі чалавека. У прафесіяналаў такіх пытанняў было б значна больш.

Мінскі гарадскі суд 8 кастрычніка будзе разглядаць апеляцыю, пададзеную бацькам Марыі. Спадзяемся, суддзя зверне ўвагу на нестыкоўкі і перагледзіць справу Марыі Аляксеенкавай. Калі ж суддзя пакіне раённы прысуд у сіле — у любы дзень Марыю змогуць гвалтоўна адправіць на «лячэнне».

Мы ў сваю чаргу будзем сачыць за развіццём сітуацыі ды публікаваць працяг гэтай гісторыі.



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Любіш незалежнасць — выкрадай сцяг!

Ва Узбекістане прайшлі ўрачыстасці з нагоды абвяшчэння незалежнасці, у рамках якіх яшчэ больш замацавалася дзіўная традыцыя. У гэты дзень узбекі масавы выкрадаюць дзяржаўныя сцягі — прычым дэманструюць сапраўдныя акрабатычныя фокусы. Толькі ў Ташкенце за апошні Дзень Незалежнасці скралі дзве тысячы сцягоў (усяго ў горадзе было вывешана каля 6 тысяч штандараў). У прынцыпе, гэтую з'яву можна разглядаць як нейкую праяву патрыятызму, аднак, з іншага боку, такі патрыятызм шкодны для бюджэту. У гарадской адміністрацыі ўдакладнілі, што кошт кожнага сцяга складае 70 тысяч сум (каля 7 долараў). У выніку павальных крадзяжоў агульная сума шкоды дасягнула 142,6 мільёна сум (15 тысяч долараў). Аднак пакуль мэрыя вырашыла адмовіцца ад рэпрэсій і абмежавалася заклікам «быць свядомымі і ставіцца беражліва да дзяржаўнай маёмасці, што ўпрыгожвае сталіцу». Паводле ўзбекскіх сацыяльных форумаў, выкрадзенымі сцягамі ўзбекі звычайна ўпрыгожваюць прыватныя машыны.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Апошнія нудысты

Нямецкая прэса звяртае ўвагу на адзнакі крызісу мясцовага руху нудыстаў. На першы погляд, такая заклапочанасць трошкі дзіўная. Але, як высвятляецца, рух нудыстаў у свой час быў вельмі моцнай грамадзянскай нізавой ініцыятывай. На пачатку ХХ стагоддзя думка пра тое, што аголенасць дапамагае целу і мазгам, была вельмі папулярная сярод практычна ўсіх груп насельніцтва. Маршы аголеных людзей нікога не здзіўлялі. Больш за тое, у нудыстаў паўстала сваё палітычнае лобі, якое праштурхнула ў закон іх права — патрабаваць на кожным пляжы асобнага нудыскага ўчастку. Нават у ГДР, дзе змагаліся за сацыялістычную мараль, аматарам голага цела дазволілі мець сваю легальную арганізацыю, і нават выдаваць і свабодна прадаваць часопісы. Аднак сёння гэты рух аказаўся ў крызісе. Калі ў 1970-я гады колькасць сяброў Нямецкага саюза за свабодную культуру цела (DFK) зашкальвала за 30 тысяч, то сёння актыў арганізацыі вымяраецца некалькімі сотнямі. Дакладна патлумачыць агонію DFK ніхто не здольны. Самі нудысты вінавацяць ва ўсіх праблемах сацыяльныя сеткі, куды аматары агаляцца, маўляў, выкладаюць свае фотаздымкі, не маючы патрэбы ўдзельнічаць у арганізаваным нудысцкім руху.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ЗША. Біблія супраць урагану

Апошнім часам у амерыканскі штат Фларыда рэгулярна прыходзяць ураганы, што выклікала цікавую рэакцыю. У асяроддзі часткі мясцовых пратэстантаў узнікла ініцыятыва змагацца з прыроднымі катастрофамі з дапамогай малітвы. Рух нарадзіўся два гады таму, калі ў Фларыду прыйшоў ураган Ірма. Тады вялікая група вернікаў выйшла на пляж і пачала бавала супакоіць ураган за кошт чытання фрагментаў Бібліі. Ураган яны, натуральна, не спынілі, аднак дзіўным чынам шкода ад Ірмы ў гэтым муніцыпалітэце склала 45 мільёнаў долараў, калі ў суседніх — пад 80. Гэта арыфметыка дапамагла руху набыць салідны маштаб. Інакш бы перад нядаўнім прыходам урагану Дорыян уладам не прыйшлося б заклікаць вернікаў не страляць па хмарах (чамусьці тыя вырашылі, што гэта спалохае ўраган, і той сыдзе з Фларыды). Прэса не інфармуе, ці паслухаліся сектанты заклікаў. Затое яна згодная з тымі, хто адзначае, што мода на барацьбу з прыроднымі катастрофамі з дапамогай Бібліі будзе ўсё больш папулярнай.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ЯПОНІЯ. Алімпіяда? Дзякуй, не трэба

Японія, як вядома, у наступным годзе прымае летнюю Алімпіяду. Праўда, ёсць японцы, якія спадзяюцца, што мерапрыемства ўсё ж не адбудзецца. Гэта сябры ініцыятывы супраць правядзення спартовага свята, якая ўпершыню заявіла пра сябе напрыканцы лета. Як і ў іншых краінах, што прымалі Гульні, іх праціўнікі — перш за ўсё жыхары кварталаў, дзе будуюцца спартовыя аб'екты або гатэлі для турыстаў. Ахвярамі алімпійскай забудовы, як правіла, з'яўляюцца арандатары, якія губляюць даступнае жыллё. Праўда, ёсць у японскім антыалімпійскім руху і свае асаблівасці. Яго актыўна падтрымліваюць бяздомныя, якія любяць гарадскія паркі японскай сталіцы. Вядома, што мэрыя рыхтуе пастанову, каб забараніць бамжам там начаваць. Клашары настроеныя вельмі радыкальна. З іншага боку, улада таксама гатовая дзейнічаць рашуча. Як заявіў у свой час прэм'ер Сіндза Абэ, Алімпіяда дае шанец рэабілітаваць вобраз Японіі пасля аварыі на атамнай станцы Фукусіма. Застаецца дадаць, што на акцыях супраць Алімпіяды ў Токіё прысутнічалі французы і амерыканцы, якія збіраюцца не дапусціць Гульняў у Парыжы (2024 год) і ў Лос-Анжэлесе (2028 год). Яшчэ ніколі ў гісторыі пратэсты супраць будучых Алімпіядаў не рыхтаваліся так рана.

**Паводле нямецкай прэсы**




Фота www.twitock.com

# Усе баяцца Грэты

*Алег НОВІКАЎ*

**Грэта Тунберг, 16-гадовая дзяўчына, менш чым за год стала бясспрэчным лідарам сусветнага руху за выратаванне клімату. Аднак ніхто не ведае, куды тынейджар можа накіраваць мільённую армію сваіх фанатаў.**

У Нью-Ёрк 28 жніўня прыбыла яхта «Malizia II». Навіна стала адной з самых топавых праз тое, што на борце карабля знаходзілася Грэта Тунберг. Увесь свет ведае яе як ініцыятарку сусветнага моладзевага руху за выратаванне клімату, які пачаўся з яе асабістага пікету ля шведскага парламента ў жніўні 2018-га. Хутка ў Тунберг знайшліся мільёны паслядоўнікаў па ўсім свеце, а сама дзяўчынка стала мегазоркай.

Ужо ўвесну 2019 года Тунберг з'явілася на вокладцы часопіса «Time», рэдакцыя якога назвала яе «лідаркай наступнага пакалення». Яна стала прапісалася ў спісе ста найбольш уплывовых людзей планеты. Сярод тых, хто меў з маладой шведкай рандэву, — Барак Абама і Папа Рымскі, якога пасля сустрэчы яна назвала «прыкольны». Хапае спекуляцый наконт таго, што Тунберг без пяці хвілін лаўрэат Нобеля. На гэтую ўзнагароду яе высунулі шведскі і нарвежскі парламенты.

Згаданы візіт дзяўчыны ў Злучаныя Штаты выклікаў ажыятаж не толькі праз яе знакамітасць. Скандальны прысмак ваяжу Тунберг надавала медыя-істэрыка, што пачалася напярэдадні. Усё таму, што Грэта прынцыпова абрала 15-дзённы марскі круіз замест пералёту, які займае звычайна некалькі гадзінаў. Пры гэтым яна заклікала сваіх адэптаў таксама падарожнічаць за акіян караблямі, а не авіялайнерамі. Шмат хто з каментатараў пабачыў у гэтым праяву яўнага радыкалізму.

Адсюль лагічна паўстала пытанне: «Ху із Грэта Цінцін Элеанора Эрнман Тунберг?» (поўнае імя дзяўчынкі, якая нарадзілася ў 2003 годзе ў сям'і артыстаў). Дарэчы, ад маці Малены яна, напэўна, узяла грамадзянскую непрымірымасць. Па словах Грэты, яе вельмі натхніў удзел маці ў акцыі ў абарону правоў ЛГБТ у Маскве ў 2009 годзе, які скончыўся арыштам.

Што да яе палітычных поглядаў, то, сапраўды, Тунберг характэрныя радыкальныя забабоны. На яе думку, крызіс, выкліканы глабальным пацяпленнем, настолькі сур'ёзны для чалавецтва, што яго можна лічыць экзістэнцыяльным. Яна лічыць, што маладой генерацыі ў такой сітуацыі няма чаго губляць. Выступаючы ў парламенце Вялікабрытаніі, яна так і сказала: «Вы (дарослыя) нам хлусілі. Вы далі нам ілжывую надзею. Вы сказалі нам, што ў нас будзе будучыня». Грэта таксама лічыць, што часу думаць і разважаць не засталося — трэба нешта рабіць.

«The New York Times» убачыў у гэтых словах водавочны «канфлікт з дэмакратыяй». Адзін з калумністаў выдання, каментуючы погляды дзяўчынкі, падкрэсліваў, што яе план выратавання клімату можа мець кепскія наступствы праз адсутнасць у маладых абаронцаў жыццёвага вопыту, уласцівых ім утапічных поглядаў, неразумення патрэбы балансу інтарэсаў усіх фракцый грамадства і гэтак далей.

**Крызіс, выкліканы глабальным пацяпленнем, настолькі сур'ёзны для чалавецтва, што яго можна лічыць экзістэнцыяльным. Тунберг лічыць, што маладой генерацыі ў такой сітуацыі няма чаго губляць**

Калі публікацыя ў «The New York Times» мела, хутчэй, палемічны характар, то цяпер у прэсе на Тунберг пачалася ўжо адкрытая атака. У яе сямейным фотаальбоме выявілі прысутнасць на выявах пластыкавага посуду, што кваліфікуюць як здраду ідэалам экалогіі. Адзін з брытанскіх еўраскептыкаў пабачыў у вачах дзяўчыны «прыкметы апакаліпсісу». Крытыкі расшукалі, што ў дзяцінстве Грэту падазравалі ў аўтызме праз яе слабую камунікабельнасць з аднагодкамі. Гэта дазволіла канадскаму кансерватару Максіму Берньеру назваць усіх удзельнікаў кліматычных акцый «ментальна хворымі».

Далей за ўсіх пайшоў брытанскі таблоід «The Sun», які лічыць, што школьніца з'яўляецца марыянеткай цёмных сілаў. Гэтыя цёмныя сілы — маці дзяўчыны, якая пасля заканчэння кар'еры шукае славы, і нейкія ананімныя карпарацыі, што інвестуюць у праект пад умоўнай назвай «Грэта». Заява вельмі правакацыйная, аднак сапраўды не незразумела, як пікет нікому не вядомай школьніцы атрымаў такі моцны піяр.

У дзяўчыны хапае таксама і саюзнікаў. «Чаму Грэта Тунберг так правакуе? Усё проста. У эпоху, калі дэмакратыя знаходзіцца пад пагрозай, яна намякае на неабходнасць новага тыпу ўлады, які ўключае новую ролю моладзі, народны пратэст і аўтарытэт навукі. І для яе самых гучных крытыкаў гэта ўяўляе пагрозу маральнага зносу», — маркуе «Irish Times».

Цяперашнюю медыябойку Тунберг таксама можна разглядаць як фрагмент больш шырокай дыскусіі ўнутры заходняй эліты наконт рэцэпту вырашэння пытання клімату. Шведская школьніца, відавочна, выступае раздражняльнікам для тых, хто не верыць у сур'ёзнасць кліматычнай пагрозы і гатовы абмежавацца забаронай нейкіх антыэкалагічных прадуктаў. Іншая фракцыя эліты дапускае кардынальны перагляд спажывецкай формулы на Захадзе. Можна ўзгадаць нядаўнюю заяву прынца Гары, які заклікаў бацькоў дзеля выратавання клімату не нараджаць больш за адно дзіця.

Зрэшты, Тунберг і яе сябры таксама не будуць статыстамі. Нямецкая прэса са спасылкай на свае крыніцы піша, што ўжо гэтай восенню пратэсты школьнікаў за клімат могуць набыць больш экстрэмісцкі фармат. Аж да акупацыі і паралічу працы профільных біржаў і офісаў вядучых сусветных нафтавых і вугальных кампаній.

# «Ствараем добрую атмасферу»

Алег НОВІКАЎ


Фота www.obzor.lt

**У Вільнюсе 6–9 верасня ўпершыню літоўскія і польскія дэпутаты ў рамках Міжпартыйнай асамблеі абмеркавалі спрэчныя пытанні сумеснай гісторыі.**

Увогуле, сустракацца парламентарыі абедзюх краін пачалі не так даўно. У лютым гэтага года ўпершыню за доўгі час літоўцы і палякі зноў вырашылі сабрацца разам. Адлігу ў адносінах практычна ўсе звязваюць з абраннем на пасаду прэзідэнта дастаткова ліберальнага Гітанаса Наўседы, што вырашыў размарозіць адносіны з краінай-суседкай, якую ён наведаў першай адразу пасля інаўгурацыі.

Узаемныя літоўска-польскія кантакты апошнім часам сапраўды рэзка актывізаваліся, хаця старыя праблемы пакуль таксам нікуды не падзеліся. Гэта і праблема атрымання адукацыі на польскай мове, і гарантыі прысутнасці польскай мовы ў грамадскім жыцці, і абарона польскай спадчыны, і вяртанне канфіскаваных земляў, і, нарэшце, адсутнасць фундаментальнага закона аб правах нацыянальных меншасцяў у Літве. Літоўска-польскаму дыялогу заміналі ў тым ліку і палярныя ацэнкі некаторых гістарычных падзей. І вось нарэшце ў Варшаве і Вільнюсе вырашылі, што ў гэтай галіне трэба нешта рабіць, — і прызначылі тэматычную сустрэчу.

Напярэдадні правядзення сустрэчы яе мэту паспрабаваў акрэсліць літоўскі дэпутат Арунас Гумуляўскас, які кіруе парламенцкай камісіяй нацыянальнай гістарычнай памяці і змагання за свабоду. «Палітыкі, безумоўна, не будуць умешваца ў працэс вывучэння гісторыі, але мы, як прадстаўнікі ўлады, будзем заахвочваць гэтае даследаванне да больш актыўнага дыялогу, каб у нашай гісторыі не было такіх белых плямаў», — заявіў Гумуляўскас. Ён дадаў, што вонкавыя сілы ў выглядзе Расіі намагаюцца выкарыстаць розніцу ў гістарычных падыходах, каб сутыкнуць Варшаву і Вільнюс.

Гледзячы па рэпартажах, большасць выступаў былі вельмі агульнымі. Шмат казалі пра гістарычнае братэрства народаў, цяперашнія геапалітычныя выклікі, неабходнасць кааперацыі. «Ствараем добрую атмасферу», — растлумачыла журналістам адна з польскіх дэпутатак. Што тычыцца канкрэтыкі, то сустрэча, як піша варшаўская прэса, давяла адсутнасць у Польшчы і Літвы прынцыповых супярэчнасцяў наконт канцэпцыі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. А вось знайсці агульнае бачанне міжваеннай гісторыі рэгіёну пакуль не атрымалася.

Перш за ўсё, у бакоў дыяметральна супрацьлеглае стаўленне да «акцыі Жэлягоўскага» — генерала, які з санкцыі Пілсудскага ў 1920-м «узняў бунт», стварыў дзяржаву «Сярэдняя Літва» са сталіцай у Вільні, што насуперак Версальскім дамовам далучыў да Польшчы. Польская гістарыяграфія станоўча ацэньвае ўчынкі Жэлягоўскага ды звяртае ўвагу на мясцовую этнічную палітру, сімпатыі тагачаснай Літвы на адрас бальшавікоў.

У вачах літоўцаў учынак Люцыяна Жэлягоўскага — не што іншае, як акупацыя. Нездарма ў 2017-м літоўскія нацыяналісты заклікалі высветліць маштаб шкоды, якую нанесла Польшча Літве падчас акупацыі Вільні ў 1920–1939 гадах, і патрабаваць ад Варшавы кампенсаваць яе.

**Расійска-беларускія інтэграцыйныя працэсы разразаюць прастору паміж Кіевам — Варшавай — Вільнюсам, што можа прывесці да з'яўлення «вялікай польска-расійскай» мяжы**

Другі яблык разладу — дзейнасць на Віленшчыне ў часы Другой сусветнай вайны фарміраванняў Арміі Краёвай (АК). На тэрыторыі Літвы тады была створана асобная Віленская акруга АК агульнай колькасцю ў 9 тысяч чалавек, жаўнеры якой ваявалі галоўным чынам супраць немцаў і літоўскіх калабарацыяністаў. А вось генеральная пракуратура Літвы ў 1990-я гады абвінавціла віленскае АК у забойстве 273 мірных жыхароў у Літве. Паводле афіцыйных літоўскіх гісторыкаў, АК замахвалася на цэласнасць літоўскай дзяржавы, не прызнаючы ўключэння Віленшчыны ў склад Літвы ў 1939-м. Нягледзячы на гэта, некаторыя літоўскія дэпутаты дапусцілі ўшанаванне так званых «праклятых жаўнераў» — удзельнікаў польскага антысавецкага супраціву ў пасляваеннай Літве.

Гледзячы па фінальным прэс-рэлізе, кампраміс па гэтых двух эпізодах будзе знойдзены яшчэ не хутка. У прынятай сумеснай дэкларацыі адзначаецца толькі магчымасць далейшага паглыблення партнёрства і вырашэння важных двухбаковых пытанняў. З іншага боку, такога выніку трэба было чакаць, паколькі над гістарычным наратывам павінны працаваць не палітыкі, а прафесійныя гісторыкі.

Аднак у чымсьці ўдзельнікі сустрэчы прасунуліся. Прынамсі, літоўскі бок кажа, што дыялог можна будаваць на базе сцвярджэння, што «абодва народы былі ахвярамі таталітарных рэжымаў: савецкага і нацысцкага». А вось дэпутат Тадэвуш Азіевіч мяркуе, што гістарычную памяць літоўцаў і палякаў можна аб'яднаць за кошт гонару за ваенныя поспехі супраць Расіі. «Дух свабоды абедзвюх краін падштурхнуў нас да барацьбы за нашу незалежнасць. Мы ўдзельнічалі ў адных і тых жа паўстаннях, і мы памятаем нашых агульных герояў», — сказаў палітык.

Хаця беларуская тэматыка не прысутнічала ў афіцыйнай праграме, пра яе таксама казалі. Прынамсі, расійскія СМІ пішуць, што кулуарна ўдзельнікі Асамблеі абмяркоўвалі расійска-беларускія інтэграцыйныя працэсы, якія разразаюць прастору паміж Кіевам — Варшавай — Вільнюсам, што можа патэнцыйна прывесці да з'яўлення «вялікай польска-расійскай» мяжы. Таксама непакоіць іх незразумелая знешняя пазіцыя Уладзіміра Зяленскага.

Так ці інакш, падобныя міжнародныя дэпутацкія дыялогі могуць быць карыснымі для нашага рэгіёну, дзе гістарычная памяць моцна ўплывае на палітыку. Магчыма, калісьці адбудзецца і аналагічная Асамблея беларускіх і польскіх або літоўскіх парламентарыяў. Аднак для гэтага, найперш, трэба мець парламент.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Тарас Крэмінь



Украінскі палітык стаў першым у гісторыі краіны моўным амбудсменам. Такая пасада з'явілася ў межах выканання закона аб мове, што паспела прыняць старая Вярхоўная Рада.

Паводле закону, амбудсмен павінен сачыць за тым, каб украінская мова прысутнічала і ўжывалася ва ўсіх сферах, пазначаных законам: адукацыя, ахова здароўя, СМІ, медыцына, суда- і справаводства. Пры гэтым амбудсмен павінен рэагаваць на ўсе скаргі, у тым ліку ананімныя.

Шмат хто чакае ад Крэміня дастаткова жорсткага курсу. У тым ліку таму, што ён — сын украінскага паэта і перакладчыка Дзмітрыя Крэміня, а з 2010 года ўваходзіў у нацыяналістычную партыю Арсенія Яцанюка «Народны фронт» і быў суаўтарам закона пра адукацыю, які забараняе нацменшасцям вывучаць свае мовы ў школах. Праўда, каб заняць пасаду амбудсмена, Крэміню, паводле закона, яшчэ трэба згода Кабміну і, напэўна, ухваленне самога Зяленскага. Апошні падчас выбарчай кампаніі жорстка крытыкаваў Закон аб мовах і абяцаў у выпадку перамогі ўлічваць інтарэсы рускамоўных украінцаў. Праўда, пакуль у гэтай сферы ўсё застаецца па-ранейшаму. Таму можна дапусціць, што кандыдатуру Крэміня прэзідэнт зацвердзіць, аднак яго дзейнасць будзе пад кантролем прэзідэнцкай адміністрацыі, і ўсё абыдзецца без гучных скандалаў.

### Ян Бёмерман



Нямецкі сатырык і радыёвядоўца, які ў свой час праславіўся жартамі з турэцкага прэзідэнта Эрдагана, заявіў, што выстаўляе сваю кандыдатуру на пасаду сустаршыні Германскай сацыял-дэмакратычнай партыі (SPD).

Жарты (галоўным чынам на тэму нетрадыцыйных сексуальных упадабанняў і памеру мужчынскай годнасці турэцкага гаранта) раз'юшылі турэцкае МЗС, якое ў 2016 годзе патрабавала ад Берліна судзіць сатырыка. Меркель паабяцала Анкары суд на Бёмерманам, аднак у выніку справу замялі. І вось Бёмерман вяртаецца.

Нагадаем, што ў SPD цяпер праходзяць унутраныя выбары новага кіраўніцтва, якія, як спадзяюцца іх ініцыятары, дазволяць партыі выйсці з самага цяжкага крызісу за апошнія сто гадоў. На цяперашні час канчатковы вынік праймерыз прагназаваць цяжка. Так ці інакш, генсек эсдэкаў вітаў жаданне сатырыка ўзначаліць партыю, і ў якасці першага кроку прапанаваў яму дапамагчы партыі на кастрычніцкіх выбарах у зямлі Цюрынгія.

Хаця шмат хто дапускае, што Бёмерман папросту імкнецца зрабіць сабе рэкламу на гэтай тэме, аднак ён сапраўды ўжо падаў заяву на ўступленне ў партыйную арганізацыю. Што да рэакцыі грамадства, то ў большасці немцы вітаюць крок Бёмермана. На іх думку, горш, чым сёння, партыі нямецкіх сацыял-дэмакратаў ужо не будзе.

### Рыгор Яўлінскі



Структура Яўлінскага — партыя «Яблоко» — найбольш паспяхова сярод апазіцыйных партый выступіла на мясцовых і рэгіянальных выбарах 8 верасня. Па выніках галасавання ў Масгардуму прайшлі ўсе чатыры дапушчаныя да выбараў кандыдаты ад партыі.

«Яблычныя» кандыдаты перамаглі таксама на выбарах у заканадаўчыя сходы Хабараўска і Пскова, на муніцыпальных выбарах у іншых рэгіёнах. Такія вынікі дазваляюць лічыць «Яблоко» вядучай апазіцыйнай сілай на выбарах у Думу 2021 года. Пры гэтым Яўлінскі моцна крытыкуе Аляксея Навальнага, чыя стратэгія «Разумныя выбары», як лічыцца, дапамагла сябрам партыі «Яблоко» абрацца.

У гэтым плане не зразумела, як апазіцыянеры будуць супрацоўнічаць падчас кампаніі 2021-га. З іншага боку, Яўлінскі паабяцаў, што яго фракцыя ў Масгардуме будзе змагацца за вызваленне «навальністаў», якіх асудзілі за ўдзел у летніх акцыях пратэсту супраць фальсіфікацый выбараў.

Што тычыцца агульнай сітуацыі па краіне, то, відавочна, на выбарах перамагла «Адзіная Расія». Усюды, дзе абіралі губернатараў (а гэта 16 рэгіёнаў), перамаглі праўладныя кандыдаты. На думку экспертаў, апазіцыя не ўлічыла, што кіруючая партыя пасля лакальных няўдач мінулага года зрабіла цалкам правільныя высновы і зараз старанна вучыцца адрасна працаваць з выбаршчыкам — перш за ўсё па рэгіянальнай і лакальнай павестках.

# Пакт Молатава — Рыбентропа:

Таццяна ПРОЦЬКА

**Звычайна, калі гаворка заходзіць пра наступствы Пакта Молатава — Рыбентропа для Беларусі, у першую чаргу як вельмі станоўчая з'ява адзначаецца «ўз'яднанне Заходняй і Усходняй частак Беларусі». Але якім коштам гэта было зроблена, як правіла, не згадваецца. Колькі ж беларусам каштавала ўз'яднанне?**




### Падрыхтоўка

У пачатку кастрычніка 1936 года мяцежны іспанскі генерал Эміліа Мола выступіў па радыё і сказаў знакамітую фразу: мы наступаем на Мадрыд чатырма калонамі, але наступленне пачне пятая — у самім Мадрыдзе. Праз тыдзень пра «пятую калону» ведалі ва ўсім свеце. Рэспубліканскі іспанскі ўрад пачаў масавыя арышты і расстрэлы на месцы ўсіх падазроных у дачыненні да «пятай калоны».

На савецкае кіраўніцтва магчымасці «пятай калоны» зрабілі вялікае ўражанне. Рыхтуючыся да вайны (яна ў тыя часы называлася «сусветная рэвалюцыя»), НКУС СССР пачаў выяўляць тых, хто, на думку спецслужб, мог бы не падтрымаць савецкую ўладу падчас ваенных падзей. Для БССР былі вызначаны наступныя «варожыя» групы: антысавецкія і проста «ненадзейныя» элементы памежнай зоны; перабежчыкі з Польшчы і іншых краін, асабліва сябры КПЗБ; нацыянальныя меншасці БССР, якія з'яўляюцца тытульнай нацыяй у будучых «зонах уплыву» — латышы, палякі, немцы; беларускія нацыяналісты-шавіністы (незалежна ад іх палітычных перакананняў); былыя сябры палітычных партый, прадстаўнікі «варожых класаў» — святары, кулакі, царскія афіцэры і іншыя; хутаране.

Гэтыя групы павінны былі знішчацца. Юрыдычнай і афіцыйнай была назва «меры сацыяльнай абароны».

Акрамя таго, было зменена кіраўніцтва БССР. Яно было «ўмацаванае» новымі кадрамі — праверанымі і, галоўнае, не маючымі дачынення да былой барацьбы ў партыі бальшавікоў і да беларусаў. Кадрамі, якія падтрымалі б паход СССР на Захад для распальвання сусветнай рэвалюцыі.

У сярэдзіне 1938 года ў Беларусь накіравалі нікому не вядомага інструктара ЦК УсеКП(б), які паўгода да гэтага працаваў кіраўніком групы па электрыфікацыі чыгункі Усесаюзнага навукова-даследчага электратэхнічнага інстытута, выхадца з Кубані Панцеляймона Панамарэнку, у якасці сакратара ЦК КПБ. Першы свой выступ 8 ліпеня 1938 года ў Гомелі Панамарэнка прысвяціў задачы «выкарчоўкі» ворагаў. Вядомая яго шыфроўка Сталіну з просьбай павялічыць для БССР нормы колькасці рэпрэсаваных па першай катэгорыі (расстрэл) на дзве тысячы чалавек, а па другой (турма ці лагер) — на тры тысячы.

Механізм прыняцця рашэння пра рэпрэсаванне таго ці іншага чалавека быў судовы і пазасудовы. Частку грамадзян СССР — БССР асудзіла Ваенная Калегія Вярхоўнага Суда. Перад тым, як пытанне разглядалася судом, яно праходзіла зацвярджэнне. НКУС накіроўваў Сталіну так званыя «расстрэльныя спісы» (захавалася 383 спісы на 44,5 тысячы імёнаў), якія Сталін, Молатаў, Кагановіч, Варашылаў і іншыя праглядалі, падпісвалі і такім чынам прадвызначалі рашэнне суда. Менавіта праз «расстрэльныя спісы» праходзілі партыйныя дзеячы, у тым ліку і большасць чальцоў ЦК УсеКП(б), военачальнікі, вядомыя асобы інтэлігенцыі, пісьменнікі і культурныя дзеячы.

Значна больш грамадзян СССР — БССР было рэпрэсавана ў пазасудовым парадку — «тройкамі» і двойкамі. Як ужо згадвалася, людзі былі разбітыя на дзве катэгорыі: першая катэгорыя падлягала расстрэлу, другая павінна была правесці 10 гадоў у зняволенні (ізаляцыі). Рашэнне, каго рэпрэсаваць і па якой катэгорыі, належала «тройцы» — яна ўключала кіраўніка НКУС рэгіёну, прадстаўніка партыйнага кіраўніцтва і пракуратуры.

«Двойкай» называлася камісія з кіраўнікоў НКУС і пракуратуры. «Двойка» не мела права самастойна асудзіць зняволенага (гэтым яна адрознівалася ад «тройкі»). Спісы арыштаваных накіроўваліся ў цэнтр, дзе рашэнне прымала камісія НКУС СССР (кіраўнік Яжоў) і Пракуратуры СССР (кіраўнік Вышынскі).

У нашы часы пры рэабілітацыі ўлічвалася, кім былі асуджаныя рэпрэсаваныя. Шмат хто з асуджаных «судовымі органамі» не рэабілітаваны.

Кіраўніцтва кожнага рэгіёну атрымлівала «ліміт» на рэпрэсіі, аднак, як правіла, рэгулярна звярталася ў Цэнтр з просьбай пра перагляд лімітаў у бок павелічэння — як Панамарэнка.

### Як пачыналіся рэпрэсіі

У свядомасці людзей знешнія сусветныя падзеі і падзеі іх асабістага жыцця звычайна не звязваюцца. Не вельмі заўважныя гэтыя сувязі і ў гістарычных дакументах. Чыстка БССР ад «пятай калоны» адбывалася прыкладна наступным чынам.

У снежні 1938 года ў НКУС СССР на імя Берыі паступіла заява ад 2-х камсамольцаў Мсціслава Магілёўскай вобласці — Ратчанкі і Цітова, якія працавалі ў раённай газеце. Яны паведамлялі, што пад заступніцтвам сакратара райкама КП(б)Б, рэдактара раённай газеты і начальніка раённага аддзялення НКУС у раёне «ў многіх галінах гаспадаркі дзеюцца варожыя справы». Ліст быў дасланы ў НКУС БССР, які накіраваў у Мсціслаў праверку.

Два (!) аператыўных супрацоўнікі НКУС выявілі «развал» раённай камсамольскай арганізацыі, «засмечанасць» выкладчыцкага складу школ, наяўнасць сярод школьнікаў «зладзейскіх груп» (былі «ўстаноўленыя выпадкі» малявання дзецьмі фашысцкіх значкоў). Канстатавалі «выключную засмечанасць раёна сацыяльна чуждымі і варожымі элементамі».

Было ўстаноўлена і шкодніцтва — на конезаводзе №120 за 1938 год загінулі 5 жарабіц, 18 жарабят, 31 цяля і 35 парасят. У шкодніцтве былі абвінавачаныя ветурач завода і дырэктар. Апошняга абвінавацілі і ў здзеку з рабочых, бо ён штрафаваў тых, хто ў працоўны час, пасланы для нарыхтоўкі драўніны для завода, нарыхтоўваў дровы для сябе. На заводзе працавалі дзеці і падлеткі без згоды інспекцыі аховы працы.

У калгасах былі знойдзеныя парушэнні статуту сельгасарцелі, «безгаспадарлівасць, якая даходзіць да шкодніцтва», — павялічаны звыш нормы (па 1–1,5 га) прысядзібныя ўчасткі ў 490 калгаснікаў, 74 калгаснікі «мелі прадуктыўнае быдла звыш нормы». Былі выкрытыя факты страты збожжа пры ўборцы, падмярзанне выкапанай, але не складаванай бульбы...

Спецорганы вызначылі вінаватасць службовых асоб — сакратара райкама КП(б)Б, упаўнаважанага Камітэта нарыхтовак па Мсціслаўскім раёне, намесніка старшыні райвыканкаму, старшыні райсаюза. Усе яны былі абвінавачаныя ў сваяцтве або кантактах з ужо асуджанымі «ворагамі народа».

Віна рэдактара раённай газеты («Калгасная газета») заключалася ў тым, што ён «займае "угодническую" пазіцыю ў адносінах да кіраўнікоў раёна, не ставіць прынцыпова пытанне перад імі па сігналах, якія паступаюць у рэдакцыю».

Усе «выяўленыя» падчас праверкі «варожыя элементы» былі ізаляваныя (арыштаваныя, асуджаныя, сасланыя, расстраляныя).

У сакавіку 1939 года адбыўся 18 з'езд УсеКП(б), які разгледзеў трэці план развіцця народнай гаспадаркі СССР. Быў уведзены абавязковы мінімум выпрацоўкі працадзён для сялян, працоўны не мог самавольна сысці з прадпрыемства, уведзеная крымінальная адказнасць за выпуск няякаснай прадукцыі. Галіны гаспадаркі, што былі адказныя за ваенную прамысловасць, атрымалі прыярытэтнае развіццё. Краіна пачала ўсур'ёз і тэрмінова рыхтавацца да вайны. Коратка разгледзім памеры і характар ахвяр гэтай падрыхтоўкі ў БССР.

### Ачыстка памежнай зоны

Поўная колькасць высланых не выяўленая, але ёсць дакладныя звесткі, што ўжо ў 1936 годзе былі высланыя 1779 сем'яў. У 1937 годзе да 20 кастрычніка, паводле дадзеных НКУС, былі рэпрэсаваныя: па 1 катэгорыі 1210 сем'яў з колькасцю членаў 4483, з якіх 2498 — дзеці да 15 гадоў; і па другой катэгорыі — 2066 сем'яў з колькасцю членаў 7623 (4212 чалавек — дзеці). Вядома, што былі расстраляныя 1210 чалавек, і 2066 чалавек адпраўленыя ў лагеры. Акрамя таго, з памежнай паласы дадаткова высланыя: у 1937 годзе — 856 асобаў (дадзеныя няпоўныя), у 1938-м — 3100 асобаў.

### Ізаляцыя перабежчыкаў з Польшчы і іншых краін

Як сведчыць даведка Упраўлення дзяржбяспекі НКУС БССР, складзеная 12 снежня 1938 года, са жніўня 1937-га да верасня 1938-га былі арыштаваныя: перабежчыкі з Польшчы — 3088, польскія легіянеры — 894, палітэмігранты — 468, былыя кантрабандысты, асабліва тыя, хто хадзіў у Польшчу, — 1024.

### Вынішчэнне кулакоў

Маштабы раскулачвання па БССР на ліпень 1934 года даклаў у Маскву сакратар ЦК КП(б)Б Гікала — 35 тысяч сем'яў. 1 жніўня 1937 года на падставе загаду 00447 зноў пачалася так званая «кулацкая аперацыя», па якой рэпрэсавалі «антысавецкі настроеных» былых кулакоў, былых чальцоў любых партый, святароў і крымінальнікаў. У выніку «кулацкай аперацыі» ў СССР былі рэпрэсаваныя амаль 387 тысяч чалавек па 1-й катэгорыі і 389 тысяч — па 2-й. Дакладнай лічбы вынішчаных кулакоў у БССР пасля 1936 года няма — у справаздачнасці іх далучалі да іншых «контррэвалюцыйных» груп.

### Вынішчэнне нацыянальных меншасцяў

Улетку 1937 года ў СССР пачаліся і «нацыянальныя аперацыі»: польская (загад 00485), нямецкая (загад 00439), харбінская (загад 00593), латышская (загад 49990). Афіцыйна рашэнне пра рэпрэсіі ў час нацыянальных аперацый прымала «двойка».

Падчас іх у СССР былі знішчаныя сотні тысяч чалавек: у выніку польскай аперацыі — больш за 104 тысячы, нямецкай — 31 тысяча, латышскай — больш за 17 тысяч. Па трох аперацыях — польскай, латышскай і нямецкай — у БССР з верасня 1937-га па снежань 1938-га былі асуджаныя, адпаведна, 20940, 1459 і 563 чалавек. У БССР у гэты перыяд «расстрэльныя» прысуды складалі: па прыгаворы судоў і трыбуналаў — 19%, «троек» — 87–88%. Па «польскай аперацыі» былі расстраляныя 14034, па астатніх — больш за 1500 чалавек.

Паколькі дакладная колькасць забітых не вядомая, сталінізм апраўдваюць, што забітых, быццам бы, не мільёны, а толькі сотні тысяч! Каб адчуць цынізм гэтых апраўданняў, адзін прыклад. Падчас латышскай аперацыі ў Магілёўскай вобласці ў Быхаўскім раёне ў калгасе «Гайсма» з 70 латышскіх сем'яў былі арыштаваныя 69 «галоваў сем'яў». Усе яны ў сем'і не вярнуліся — расстраляныя ці загінулі ў турме.

### Вынішчэнне «беларускіх нацыяналістаў-шавіністаў»

Пад гэтае вызначэнне падпадала, найперш, творчая беларуская інтэлігенцыя. Былі арыштаваныя 159 беларускіх літаратараў, большасць з якіх

# наступствы для Беларусі

загінула. Да 1940 года былі рэпрэсаваныя звыш 65% чальцоў Саюза пісьменнікаў БССР складу 1935 года. Закрыты Гомельскі драматычны тэатр, а яго кіраўніка — артыста, рэжысёра і драматурга Уладзіслава Галубка, які першым атрымаў званне народнага артыста БССР, — расстралялі. Такі ж лёс напаткаў мастацкага кіраўніка габрэйскага тэатра Міхаіла Рафальскага, кампазітара і дырыжора Уладзіміра Тэраўскага, вядомага збіральніка народных песень Антона Грыневіча.

Згодна наркама НКУС БССР Наседкіна, «са студзеня 1937 года па дадзены момант (на 25 чэрвеня 1938 года. — Аўт.) органы НКУС арыштавалі ў інстытутах акадэміі 57 агентаў замежных разведак, трацкістаў і іншых; пакуль яшчэ працуюць распрацаваныя намі 22 удзельнікі антысавецкага падполля, 80 блізкіх сваякоў рэпрэсаваных і 40 навуковых супрацоўнікаў — ураджэнцаў замежных краін».

Памерлі ў лагерах акадэмікі Бурштцін (матэматык), Замоцін (літаратуразнаўца), Рывлін (гісторык). Дзесяць гадоў адбыў у лагерах акадэмік Сербента (гісторык і філосаф), восем гадоў — акадэмік Казлоў (хімік).

Тады ж былі арыштаваныя члены-карэспандэнты Бранштэйн (пакараны), Бузук, Мельнік, Агурскі, Харык (пакараны), Шпенцэр (памёр у лагеры), Шчакаціхін. У цэлым, акадэмія за два гады згубіла больш за 100 навукоўцаў. Для замены рэпрэсаваных беларускіх навукоўцаў і выкладчыкаў вышэйшай школы дасылалі выхадцаў з Расіі.

## Вынішчэнне «антысавецкага падполля»

У першапачатковай версіі (лета 1937) «антысавецкае шпіёнска-шкодніцкае падполле» з 1933 года мела адзіны кіруючы цэнтр, які быў звязаны са шкоднікамі ў Маскве, а таксама з польскімі і нямецкімі органамі выведкі. Сувязь з апошнімі ажыццяўлялася праз групу габрэйскіх пісьменнікаў, якія эмігравалі ў БССР. Пазней (лета 1938-га) склад «падполля» быў пашыраны. У канчатковай версіі «падполле» складалася з 6 самастойных груп («цэнтраў»), кіраўніцтва якіх дзейнічала сумесна і было скаардынаванае «з мэтай арганізацыі шкодніцкай дыверсійнай працы ў народнай гаспадарцы на ўсіх без выключэння ўчастках». Да выведак, на якія «працавала падполле», дадаліся англійская Інтэліджэнт-Сэрвіс (агент Гікала), літоўская «Жвалгіс», проста амерыканская і японская выведкі. Да антысавецкіх шкодніцкіх шпіёнска-дыверсійных цэнтраў адносіліся арганізацыі: «правых», «бундаўска-сіяністцкая», «нацыянал-фашысцкая», «трацкісцка-тэрарыстычная», «эсэраўская» і «царкоўнікаў». У эканамічным шкодніцтве абвінавачваліся сябры ўсіх «арганізацый», акрамя «царкоўнікаў».

Канчатковыя вынікі разгрому «антысавецкага падполля ў БССР» былі падведзеныя ў чэрвені 1938 года. Яны ўяўляюць сабою брашуру з 70 старонак. Усталяваць дакладную колькасць рэпрэсаваных па гэтых дакументах немагчыма. Следчыя ў 1937–1938 гадах не распачыналі асобных спраў, абмяжоўваліся пералікам прозвішчаў асуджаных — так званыя «альбомныя спісы» — многія з якіх па розных прычынах не захаваліся. Афіцыйныя дадзеныя: «Усяго па БССР арыштавана і выкрыта ў 1937–1938 гадах 2570 удзельнікаў аб'яднанага антысавецкага падполля, з іх: трацкістаў і зіноўеўцаў — 376 чалавек, правых — 177, нацыянал-фашыстаў — 138, эсэраў — 585, бундаўцаў — 198, меншавікоў — 7, сіяністаў — 27, царкоўнікаў і сектантаў — 1015, клерыкалаў — 57» (калі падлічыць, усяго 2580, а не 2570).

Але пошукі і ізаляцыя «пятай калоны» на гэтым не скончыліся. Новых «шкодніцкіх арганізацый» раскрывалася так шмат, што паўстала нават версія аб наяўнасці яшчэ аднаго контррэвалюцыйнага цэнтра на чале з былым старшынёй СНК БССР Кавалёвым. У гэты «цэнтр» былі ўключаныя ўсе арыштаваныя работнікі НКУС, што ажыццяўлялі рэпрэсіі. Аднак яна прынятая не была.

У студзені 1939 года да ўдзельнікаў падполля прылічылі старшыню Дзяржплана БССР, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Чорнага. Як удзельнікі падполля арыштаваныя наркам мясцовай прамысловасці Грысевіч, наркам земляробства Свінцоў і іншыя.

Усе ахвяры, якія прынёс беларускі народ у гэты час, дакладна не выяўленыя і не падлічаныя.

## Вынішчэнне хутароў

Пасля 18 з'езда УсеКП(б) у Мінску 14–18 сакавіка прайшоў XIII пленум ЦК КП(б)Б. На ім старшыня Саўнаркама БССР Галадзед заявіў: «Сталін казаў, што трэба разбіць гнілую тэорыю, што быццам бы той, хто можа будаваць добра, — не можа шкодзіць. Гэтая тэорыя гнілая. Вораг-шкоднік, шкодзячы нашай справе, павінен рабіць што-небудзь і добрае, інакш ворага-шкодніка, калі ён не будзе рабіць што-небудзь добрае, хутка выкрыюць. Ён павінен берагчы сябе для вырашальнага моманту... Мы яшчэ не пачалі (я прашу зямельных работнікаў гэта прыняць да ведама) шукаць шкоднікаў у сельскай гаспадарцы. Мы шукаем іх у прамысловасці, на культурным фронце, на фронце ідэалагічным, але вельмі мала звяртаем увагі на выкрыццё шкоднікаў у сельскай гаспадарцы, як быццам там усё добра. Я адмыслова звяртаю ўвагу пленума на тое, што асноўны метад шкодніцтва на дадзеным этапе часу — гэта метад выклікання незадаволенасці масаў, настройванне масаў супраць партыі, супраць нашай дзяржавы».

Галоўнымі шкоднікамі ў сельскай гаспадарцы былі прызначаныя хутаране. Пра вынішчэнне гэтай сацыяльнай групы мала вядома нават гісторыкам. Але для БССР гэта была самая масавая аперацыя, сэнс якой нельга зразумець, калі не ўлічваць падрыхтоўку да «сусветнай рэвалюцыі».

У сярэдзіне 1920-х гадоў Беларусь жыла пад лозунгамі «Багацей, селянін!» — аўтарам яго быў старшыня ЦВК і СНК БССР Аляксандр Чарвякоў. Спачатку намеснік, а потым і народны камісар земляробства Зміцер Прышчэпаў (стаў наркамам у 27 гадоў) прапанаваў свой — «Ператворым Беларусь у чырвоную Данію». Народ гэтыя лозунгі падтрымаў, але перайначыў на свой лад: «На свінні — да сацыялізму».

Да 1936 года колькасць хутароў у БССР павялічвалася. Два раёны — Лёзненскі і Суражскі — наогул былі «хутарскія». У Лёзненскім, напрыклад, з 10 018 двароў на хутарах жылі 9 416. Болей за 50% складалі хутарскія гаспадаркі ў Сіроцінскім, Мсціслаўскім, Віцебскім, Гарацкім, Дрыбінскім, Мехаўскім, Сенненскім раёнах.

З 1936 года пачынаюцца кампаніі па ліквідацыі хутарскіх гаспадарак: так званае «сцягванне хутароў». Але колькасць хутароў у БССР штогод істотна не змяншалася, і ў 1938 годзе афіцыйна складала 158291 хутар.



Польскія памежнікі

Фота з архіва Ігара Мельнікава

**З кастрычніка 1939 года вынішчэнню падлягалі хутары і Заходняй Беларусі. Планы былі паспяхова выкананыя: у ліпені 1940 года былі вынішчаныя (ва Усходняй і Заходняй Беларусі) 161073 хутары**

У 1939 годзе з не вынішчаных класавых ворагаў засталіся толькі хутаране. Панамарэнка звярнуўся ў Маскву з прапановай не сцягваць хутары, а вынішчыць іх, дзяржаўныя крэдыты на пабудову новага жытла даваць толькі пры ўмове вынішчэння хутара. Масква падтрымала прапанову. Але краіна мела рэсурсы для перасялення самае большае 33 тысяч хутароў. Нягледзячы на гэта, быў прыняты план знішчыць 93 тысяч хутароў.

Кампанія па вынішчэнні пачалася вясной 1939 года. Была дадзеная ўстаноўка: «выселім за 2 тыдні, адбудуем за 2 месяцы» — зараз лета, пацерпіць. Так запісана ў стэнаграме нарады па абмеркаванні рабочых момантаў знішчэння хутароў, якую правёў Панамарэнка. У дзень планавалася знішчаць ад 8 да 25 хутароў. Ужо на 1 ліпеня план разбурэння быў выкананы на 111,5%, а план па забеспячэнні новым жытлом — на 19,1%.

Паколькі план ужо летам быў перавыкананы, увосень яго павялічылі — спачатку ў верасні, потым у кастрычніку.

З кастрычніка 1939 года вынішчэнню падлягалі хутары і Заходняй Беларусі. Планы былі паспяхова выкананыя: у ліпені 1940 года, па зводках КПБ, былі вынішчаныя (ва Усходняй і Заходняй Беларусі) 161073 хутары. Тыя, хто не пагадзіўся з высяленнем, былі ці расстраляныя, ці высланыя ў Сібір. Калі ўлічыць, што хутарскія сем'і былі шматдзетныя, дзяржава паламала лёсы амаль 1 мільёна чалавек.

Былая жыхарка хутара Кладнікі Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці Альбіна Кульніс распавядала: падчас знішчэння хутара яе бацьку так збілі, што маці падстаўляла драўляныя палачкі пад коўдру — каб тая не дакраналася да цела.

Вынішчэнне хутароў дорага каштавала не толькі людзям, якія страцілі сваё жытло, але і дзяржаве. Хутаране плацілі падаткі, здавалі бульбу, збожжа, скуры. Гэты прыбытак дзяржава страціла адразу. Яшчэ шмат грошай пайшло на крэдыты, якія даваліся тым, хто добраахвотна перасяляўся, — на вытворчасць цэглы, іншых матэрыялаў для будаўніцтва дзясяткаў тысяч новых дамоў і пасёлкаў. Вынішчэнне хутароў не мела аніякага эканамічнага абгрунтавання і было шкодным для эканамічнага развіцця БССР.

## З'ядалі самі сабе

ЦК ВКП(б) і СНК СССР 17 лістапада 1938 года прынялі пастанову аб парушэннях рэвалюцыйнай законнасці органамі ўнутраных спраў («Аб арыштах, пракурорскім наглядзе і вядзенні следства»). У яе развіццё кіраўніцтва НКУС СССР выдала загад 00762 ад 26 лістапада 1938 года, які абавязваў правесці расследаванні ўсіх выпадкаў парушэнняў «рэвалюцыйнай законнасці» і прыпыніць расстрэлы. Расследаваннем злачынстваў следчых займаўся аддзел арганізацыйна-партыйнай работы (ОРПО) ЦК КП(б)Б (загадчык Прохараў). Сюды паступалі матэрыялы з партыйных арганізацый, заявы грамадзян, азнаёміўшыся з якімі кіраўнікі ОРПО выклікалі «для размовы» начальнікаў аддзелаў НКУС. Аналагічнай працай па расследаванні злачынстваў райаддзелаў НКУС займаліся ОРПО абкамаў.

У студзені 1939 года адбыўся пленум ЦК КП(б)Б, яго ўдзельнікі былі праінфармаваныя аб злачынных дзеяннях супрацоўнікаў НКУС, пра арышты ўсіх абласных начальнікаў НКУС БССР на чале з былым наркамам Наседкіным, незаконных прыёмах вядзення следства. Камуністам распавялі, што зняволеных садзілі на перавернутыя табурэткі з вострымі канцамі ножак, падманным шляхам прымушалі арыштаваных падпісваць чыстыя лісты, нібыта для высвятлення сапраўднасці асабістага подпісу ў пашпарце і гэтак далей.

У сваім выступе на 18-м з'ездзе УсеКП(б) у сакавіку 1939 года кіраўнік кампартыі Беларусі Панамарэнка заўважыў: «У Савецкай Беларусі ёсць заходні сусед», які «зарэкамендаваў сябе вядомай блізкасцю да так званай восі Берлін — Рым» і «размечтался» аб некаторых землях, якія ляжаць непадалёк ад яго. БССР рыхтавалі да вайны з Польшчай.

Усяго праз паўгода пасля гэтага выступу, 17 верасня 1939 года часткі Чырвонай Арміі перайшлі мяжу СССР, заняўшы землі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

Пазней Панамарэнка ў гутарцы з акадэмікам РАН Куманевым успамінаў: «Я не думаў, што... маглі паўстаць якія-небудзь ускладненні» пры ўсталяванні «адміністрацыйнай мяжы паміж новымі абласцямі краіны». Але «ўскладненні» ўзніклі адразу. «Пятую калону» пачалі вынішчаць на новых тэрыторыях у паскораным тэмпе.

З 1939 года да траўня 1941 года на тэрыторыі Заходняй Беларусі былі праведзены аперацыі па «ізаляцыі» «леснікоў» і «асаднікаў». Вядома, што за гэты перыяд былі асуджаныя 56320 чалавек (расстраляныя з іх — 3903). Выслалі 101726 чалавек «плюс 1 эшалон».

## Вайна

Германія не стала чакаць нападу з боку СССР — 28 чэрвеня 1941 года сталіца Беларусі была занятая нямецкімі войскамі. Беларускае кіраўніцтва не аказалася захопленым знянацку. Ужо 29 чэрвеня Панамарэнка прыняў рашэнне аб арганізацыі і правядзенні дыверсій на аэрадромах, занятых праціўнікам, і накіраваў з гэтай мэтай 28 груп агульнай колькасцю ў тысячу чалавек. Праз дзень, 30 чэрвеня, Панамарэнка падпісаў дырэктыву «Аб пераходзе на падпольную работу партарганізацый раёнаў, занятых ворагам». Адначасова пачалося перакідванне атрадаў і дыверсійных груп у тыл ворага. Толькі ў другой палове 1941 года ў розныя вобласці Беларусі былі перакінутыя 437 атрадаў і дыверсійных груп, якія налічвалі 7234 чалавека.

Сусветная рэвалюцыя не атрымалася. Замест яе СССР і БССР атрымалі Вялікую Айчынную вайну, чалавецтва — Другую сусветную.

# БагатаДата

**Вы ведаеце, што Бабруйск і Маладзечна былі абласнымі цэнтрамі? А пра тое, што знакаміты журналіст, публіцыст, літаратар і першы галоўны рэдактар аднаўленай газеты «Наша Ніва» Сяргей Дубавец з'яўляецца вялікім майстрам беларускай масонскай ложы? Яшчэ больш цікавага — у аглядзе.**

## 14 верасня

**1884.** У засценку Вераскоўшчына (Навагрудскі раён Гродзенскай вобласці) нарадзіўся Фабіян Абрантовіч, святар, місіянер, педагог (магістр тэалогіі). Быў рэктарам Мінскай каталіцкай духоўнай семінарыі, павінен быў стаць кіраўніком місіі МЗС БНР у Рыме.

**1964.** У Мінску памёр паэт, крытык, перакладчык, адзін з заснавальнікаў літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша» Язэп Пушча. Сапраўднае імя і прозвішча — Іосіф Плашчынскі.

**1969.** У Магілёве нарадзіўся Мікалай Снапкоў, былы міністр эканомікі Беларусі, цяпер намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

## 15 верасня

**Міжнародны дзень дэмакратыі.** А ў Беларусі — яшчэ і **Дзень бібліятэк.**

**1794.** Руская армія пад камандаваннем А. Суворава разбіла пры Кобрыне войска Рэчы Паспалітай.

**1929.** У Мінску нарадзіўся мастак-графік, народны мастак Беларусі Арлен Кашкурэвіч. Сярод іншага менавіта ён стварыў ілюстрацыі да вядомых класічных літаратурных твораў: «Новая зямля», «Песня пра зубра», «Каласы пад сярпом тваім».

## 16 верасня

**Міжнародны дзень аховы азонавага слоя.** Абвешчаны Генеральнай асамблеяй ААН у 1994 годзе ў спецыяльнай рэзалюцыі (№ A/RES/49/114). Дата Міжнароднага дня абраная ў памяць аб дні падпісання Манрэальскага пратаколу па рэчывах, якія разбураюць азонавы слой. Дзяржавам — чальцам ААН было прапанавана прысвяціць гэты Міжнародны дзень прапагандзе канкрэтнай дзейнасці ў адпаведнасці з задачамі і мэтамі Манрэальскага пратаколу.

**1859.** У фальварку Судзіловічы Лепельскага павета Віцебскай губерні (цяпер вёска Будзькаўшчына Полацкага раёна Віцебскай вобласці) у сям'і дробнага шляхціца, род якога згадваецца з XV стагоддзя (дваранскае паходжанне пацверджана ў XIX стагоддзі ўказам Сената Расійскай імперыі) нарадзіўся Браніслаў Эпімах-Шыпіла, дзеяч беларускага нацыянальнага руху (памёр 6.6.1934). Ахрышчаны ў Палюдавіцкім касцёле. Бацькі — Ігнат Вікенцьевіч і Ганна Аляксандраўна (з роду Алецкіх). У Браніслава былі два малодшыя браты — Баласлаў і Уладзіслаў Юліян, а таксама сястра Валерыя.

У 1923 годзе прыязджаў у Мінск на сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі. Склаў першую хрэстаматыю беларускай літаратуры. У 1924-м абраны правадзейным сябрам Інбелкульта. Пераехаў у Мінск у 1925 годзе. Працаваў рэдактарам, з 1927-га — старшынёй камісіі Інбелкульта па складанні слоўніка жывой беларускай мовы. Арыштаваны ДПУ БССР 18 ліпеня 1930-га па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; на яго кватэры быў праведзены вобшук. Знаходзіўся ў зняволенні да 12 верасня 1930-га. Вымушаны быў пакінуць Мінск і выехаць у Ленінград, дзе і памёр.

**1904.** У вёсцы Баршчоўка Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці нарадзілася актрыса Раіса Кашэльнікава, адна з лепшых выканальніц галоўнай ролі ў славутым спектаклі «Паўлінка».

**1999.** Зніклі без вестак палітык Віктар Ганчар і бізнесовец Анатоль Красоўскі. Віктар Ганчар — дэпутат Вярхоўнага Савету, віцэ-прэм'ер у першым урадзе Аляксандра Лукашэнкі, які ўжо праз паўгода пайшоў у адстаўку і апазіцыю, старшыня Цэнтрвыбаркаму. Падчас падрыхтоўкі рэферэндуму–1996 Лукашэнка незаконна прызначыў замест яго Лідзію Ярмошыну.



Фота Радыё Свабода

## 17 верасня

**1939.** Чырвоная Армія пачала паход у Заходнюю Беларусь і Украіну.

**1949.** У Мінску нарадзіўся палітык і навуковец Генадзь Карпенка. Доктар тэхнічных навук, дырэктар Маладзечанскага завода парашковай металургіі,



мэр Маладзечна, дэпутат і віцэ-спікер Вярхоўнага Савета, кіраваў спробай імпічменту Лукашэнкі ў 1996 годзе. Будучы лідарам апазіцыі і меркаваным кандыдатам у прэзідэнты, раптоўна памёр у красавіку 1999 года пасля крывацёку ў мозг. Існуе версія, што яго смерць палітычна падладжаная і звязаная са знікненнямі ў тым самым годзе іншых апазіцыянераў — Віктара Ганчара ды Юрыя Захаранкі.

**1959.** У Мазыры нарадзіўся Сяргей Дубавец, журналіст, літаратар і выдавец. У 1991 годзе стаў галоўным рэдактарам аднаўленай газеты «Наша Ніва», а сёлета — вялікім майстрам беларускай масонскай ложы.

## 18 верасня

**1804.** У мястэчку Свіслач на Гродзеншчыне на грошы графа Вінцэнта Тышкевіча была адкрытая гімназія. Сярод яе вучняў быў Кастусь Каліноўскі. Цяпер гэта гімназія носіць яго імя.

## 19 верасня

**1939.** Чырвоная Армія заняла Вільню, а Віленскі край быў далучаны да БССР. Праўда, ненадоўга — ужо 10 кастрычніка яго перадалі Літве.

## 20 верасня

**1944.** У складзе БССР утвораныя Гродзенская вобласць, Маладзечанская вобласць (скасаваная ў 1960 годзе) і Бабруйская вобласць (скасаваная ў 1954-м).

**1960.** У пасёлку Поразава Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці нарадзіўся кампазітар Яўген Паплаўскі. Адзін з арганізатараў і дырэктар у першай палове 1990-х гадоў нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання «Беларуская капэла». Сярод яго твораў — кантаты «Бацькаўшчына» на вершы Гілевіча і Генію, «Званы маёй Русі» на вершы Фета і Рубцова, сімфанічная паэма «Quo vadis?», сімфонія «Lux aetema» памяці Скарыны.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1478

Падпісана да друку 13.09.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.